

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 КРАСАВІКА 2000г. № 16/4047 КОШТ 80 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **300 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **930 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**

**23 красавіка лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомаму пісьменніку Віктару КАЗЬКО спаўняецца 60 гадоў.**

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 7, 9, 14—15.*



# КОЛА ДЗЁН

***Нарэшце прыйшла вясна. І гэта бачна па ўсім — і па сонечных доўгіх днях, і па птушках, якія вярнуліся з выраю, і па прыгожых дзяўчатах і жанчынах. Але вясна — гэта не толькі цяпло і вясёлы настрой, але і час вялікіх клопатаў. І ўжо ў газетах друкуюцца звесткі з сяўбы яравых збожжавых і зернебабовых. Напярэдзе ўсіх — Брэсцкая вобласць, дзе засеяна 69 працэнтаў плошчаў, а ў Віцебскай — толькі 5 працэнтаў. Ды пройдзе час і ўсё, што трэба, будзе пасеяна. Бо так не першы год і не апошні. І працуюць людзі ў нас не горай, чым у іншых краінах. Але...***

***Нарэшце прыйшла вясна. Заўтра суботнік. А ў нядзелю праваслаўная Вербная і каталіцкі Вялікдзень.***

## ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Беларусі падтрымаў ініцыятыву працоўных калектываў і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў аб правядзенні рэспубліканскага суботніка. У адпаведнасці з пастановай урада, ён адбудзецца заўтра, 22 красавіка. Кіраўніцтва рабочай групай па падрыхтоўцы і правядзенні гэтага мерапрыемства ўскладзена на намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Замяталіна. Словам, усе на суботнік!

## НАМЕР ТЫДНЯ

Прэзідэнт ЗША аб'явіў аб сваім намеры назначыць Майкла Дж. Козака на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі. Майкл Дж. Козак, які жыве ў Арлінгтоне, штат Вірджынія, — кадравы супрацоўнік вышэйшага эшалона дзяржаўнай службы. У рэспубліканскіх СМІ з'явілася інфармацыя, што мяркуемы новы пасол ад ЗША ў Беларусі па паходжанні беларус і завуць яго Міхась Казак.

## ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што федэрацыя прафсаюзаў паранейшаму застаецца самай масавай арганізацыяй у краіне, якая па стане на 1 студзеня гэтага года аб'ядноўвала 4 млн. 378,4 тыс. чалавек. А гэта значыць, членамі ФПБ з'яўляюцца 54,2 працэнта ўсяго насельніцтва Беларусі ва ўзросце старэй за 14 гадоў. Лічба значная, але ў гэтым выпадку колькасць застаецца колькасцю, бо апошнімі гадамі прафсаюзы асаблівай вагі, якая была ў недалёкім мінулым, у нашым грамадстве ўжо не маюць. Шкада...

## З'ЕЗД ТЫДНЯ

Адбыўся V з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У справаздачным дакладзе, які зрабіў Станіслаў Багданкевіч, была дадзена ацэнка сітуацыі ў краіне, а таксама ўзнята пытанне аб адносінах партыі да мяркуемых парламенцкіх выбараў. На з'ездзе выбраны новы лідэр АГП — ім стаў Анатоль Лябедзька. Станіславу Багданкевічу прысвоены статус ганаровага старшыні.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

**З 15 красавіка ў два разы павялічыліся тарыфы на электраэнергію для насельніцтва: для гарадскога — 3,6 рубля за кВТ/г, а ў дамах, абсталяваных электраплітамі, — 2,6 рубля за кВт/г; сельскае насельніцтва будзе плаціць таксама 2,6 рубля за кожную спажытую кВт/г. Для населеных пунктаў тарыфы складуць: гарадскіх — 3,4, сельскіх — 2,4 рубля за кВт/г. Тарыфы, якія дзейнічалі да гэтага, зыходзячы са справаздач за студзень—сакавік, пакрывалі сабекошт электраэнергіі, што спажывала насельніцтва, толькі на 13,2 працэнта. З увядзеннем новых тарыфаў, як мяркуецца, гэтая лічба будзе даведзена да 24 працэнтаў. Не выключана, што з пачатку наступнага месяца тарыфы на электраэнергію могуць быць зноў павялічаны.**

## НОВАЎВЯДЗЕННЕ ТЫДНЯ

**Час ідзе і ўсё мяняецца. І, відаць, можа, хто ўжо і паспеў заўважыць на нашых вуліцах аўтамабілі ці аўтобусы з новымі рэгістрацыйнымі знакамі, якія ў суме "лічбы-літары" змяшчаюць у сабе не 6 сімвалаў, як папярэднія, а 7 і нават 8. А прычына такога новаўвядзення надзвычай простая: з-за перанасычэння краіны аўтамабілямі за 8 гадоў існавання папярэдняй "нумарызацыі" ўсе варыянты нумарных знакаў з 6 сімвалаў амаль вычарпаліся. І ўсё ж у бліжэйшы час прымусовай усебеларускай "нумарызацыі" па-новым варыянце не прадугледжваецца. Цяпер жа камплект рэгістрацыйных дакументаў з новым рэгістрацыйным знакам абыдзецца ўладальніку аўтамабіля ў 18 210 рублёў. Няслаба...**

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

Хто мае свой аўтамабіль, той, відаць, едучы па горадзе ды й за горадам, нярэдка трапляе на такія часткі дарогі, дзе ідзе дарожны рамонт. Кажуць, у замежжы дарогі рамантуюць ноччу, каб не перашкаджаць транспарту. Але гэта ў замежжы. А ў нас толькі ў Мінску штогод у капітальным рамонце знаходзяцца 50-60 вуліц з асфальтава-бетонным пакрыццём, што складае 300-400 тысяч квадратных метраў. Плюс яшчэ 300-350 тысяч квадратных метраў, якія патрабуюць бягучага рамонту. Па нарматывах, якія былі зацверджаны ў мінулым годзе, зноў пабудаваная дарога павінна рамантавацца толькі праз 12-15 гадоў. Аднак якасць нашага дарожнага пакрыцця дазваляе пратрымацца дарозе без рамонту толькі 3-5 гадоў, а бягучы рамонт падоўжвае эксплуатацыю да 7-9 гадоў.

## ЗГОДА ТЫДНЯ

Нядаўна сусветнавядомаму беларусу, які жыве ў ЗША, Барысу Кіту споўнілася 90 гадоў. Кіраўніцтва Баранавіцкага недзяржаўнага эканоміка-юрыдычнага каледжа звярнулася да юбіляра за згодай, каб іх навучальная ўстанова насіла яго імя. Нядаўна прыйшоў адказ — Барыс Кіт даў згоду. Імя ж славутага чалавека, які ніколі не забываўся і не забыўся, што ён беларус, — вартае і шмат большага.

## КРАДЗЕЖ ТЫДНЯ

Чаго толькі людзі не крадуць. Укралі і бронзавую мемарыяльную дошку, якая была ўстаноўлена на мемарыяльным знаку на радзіме Тадэвуша Касцюшкі ва ўрочышчы Мерачоўшчына Івацэвіцкага раёна. Па гэтым факце крадзяжу мясцовыя праваахоўныя органы ўзбудзілі крымінальную справу і актыўна вядуць пошукі злодзеяў, якія ўчынілі акт вандалізму з-за некалькіх дзесяткаў кілаграм каляровага металу.

## АДКЛЮЧЭННЕ ТЫДНЯ

Відаць, многія жыхары Мінска заўважылі, што ў кватэрах пахаладнела — закончыўся чарговы ацяпляльны сезон. Першымі адключылі цяпло Брэсцкая, Гродзенская і Магілёўская вобласці. Праўда, адключаны пакуль што не ўсе аб'екты. Дзіцячыя садкі, школы і бальніцы працягваюць ацяпляцца. Аднак, калі на працягу пяці дзён сярэднесутачная тэмпература паветра на дварэ будзе трымацца на ўзроўні 10 градусаў, то цяпло будзе адключана ўсюды.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Слухачамі чарговага ўрока ў пісьменніцкай бібліятэцы былі курсанты ваеннай акадэміі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Знаёміліся яны з творчасцю паэткі, драматурга, празаіка Зінаіды Дудзюк, якая спецыяльна прыехала ў гэтым дзень з Брэста, дзе жыве і працуе. Пра творчасць З. Дудзюк гаварылі яе калегі Ніна Загорская, Галіна Каржанеўская, Васіль Жуковіч.

Наступны ўрок будзе прысвечаны творчасці навукоўца, перакладчыка, крытыка Уладзіміра Мархеля.

●

На вечарыну, прысвечаную 80-годдзю Аляксея Карпюка, якая адбылася ў вялікай зале Дома літаратара, сабраліся вучні мінскіх школ, педагагічнага каледжа, настаўнікі, пісьменнікі. Цёплае слова пра выдатнага пісьменніка і чалавека гаварылі Вольга Іпатава, Серафім Андраюк. Апавяданні А. Карпюка чыталі студэнты Беларускага універсітэта культуры Ганна Аўсяпян, Надзея Кузьмянкова. Цёпла сустрэлі прысутныя выступленні навучэнцаў Беларускага ліцэя мастацтваў, лаўрэатаў міжнародных фестываляў Маруты Старавойтавай і Аліны Цагалкі, а таксама фальклорнага ансамбля "Грамніцы" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Зяневіча.

На вечарыне выступіла таксама ўдава А. Карпюка Іна Анатольеўна Карпюк.

●

"І слова клікала ў бой", — так называўся "круглы стол", які прайшоў па ініцыятыве Саюза пісьменнікаў, рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь. Ён адбываўся ў 120-й гвардзейскай Рагачоўскай дывізіі.

З дакладам "Ішла вайна народная" выступіў пісьменнік, генерал-маёр у адстаўцы Анатоль Сульянаў.

З цікавасцю слухалі салдаты і афіцэры выступленні Навума Гальпяровіча, Пятра Прыходзькі, Алеся Махнача, Яўгена Каршукова, Алеся Савіцкага, Генадзя Пашкова, Аляксея Слесарэнкі, франтавыя песні ў выкананні Алы Зімінай і салістаў сталічнага Дома афіцэраў. Гэтае мерапрыемства прайшло па праграме ваенна-шэфскай камісіі творчага саюза, прысвечанай 55-годдзе Перамогі. Наступны "пісьменніцкі дэсант" — да воінаў-пагранічнікаў Дзяржынскага пагранічнага атрада.

●

Сёлета на Берасцейшчыне адбудзецца семінар маладых літаратараў. Пра гэта дамовіліся ў час наведвання абласнога цэнтра в. а. абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава і намеснік старшыні аблвыканкама Валерый Захарчанка. Фінансаванне мерапрыемства бяруць на сябе мясцовыя ўлады.

Такая ж дамоўленасць дасягнута і з Віцебскім аблвыканкамам. Семінар маладых літаратараў Віцебшчыны пройдзе ў старажытным Полацку.

**Н. К.**

НАДЗЁННАЕ

## *Я дрэву сказаў ...*

*Я дрэву сказаў: як самотна табе*
*Гадамі на месцы нязрушна стаяць,*
*І гнуцца пад ветрамі хлёстка ў цяжбе,*
*І ў далечы толькі паглядам крыляць.*

*І дрэва сказала мне: іншых выгод*
*Напоўніцу маю без ліку я дзён.*
*Мне бачыцца сонца адзіны ўзыход,*
*І захад мне сонца адзіны відзён.*

*Няхай і прыкута пад небам стаю,*
*Ды ў глебе радзіннай мае карані.*
*Любіў бы ты гэтак радзіму сваю,*
*Не збег бы адгэтуль павек, не мані!*

*Быў тут бы заўсёдна, не ў свеце кружыў,*
*Прыняўшы вандроўца здарожаны лёс.*
*Любіў гарачэй бы і ўзрушней тужыў,*
*Не зведаў, магчыма б, чарнобыльскіх слёз.*

*Ты ў свеце, блукаючы, рушыў і сек,*
*Ля прорвы нябыту паўстаў на краю.*
*За твой над прыродай учынены здзек*
*Я ў атамным пекле сягоння стаю.*

*То вецер атрутны лісцё калыхне,*
*То промень пякучы усчнецца сляпіць.*
*Раз першы за век захацелася мне*
*Хоць некалькі крокаў ад зоны ступіць.*

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

КОНКУРСЫ

# Створым помнік Еўфрасінні Полацкай!

***Міністэрства культуры разам з Полацкім гарвыканкамам у рамках комплекснай доўгатэрміновай праграмы развіцця горада Полацка і Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка на 2000—2005 гг. праводзіць адкрыты Рэспубліканскі бліцконкурс на атрыманне заказу па стварэнні помніка Еўфрасінні Полацкай для г. Полацка.***

### Праграма і ўмовы адкрытага рэспубліканскага бліцконкурсу на атрыманне заказу па стварэнні помніка Еўфрасінні Полацкай для г. Полацка

З мэтай распрацоўкі праекта помніка ўдзельнікам конкурсу прапануецца схема горадабудаўнічай сітуацыі ў г. Полацку.

Згодна з рашэннем Полацкага гарвыканкама для ўзвядзення помніка вызначана наступнае месца...

**Бліцконкурс праводзіцца з 10 да 17 мая 2000 г.**

У ім могуць прыняць удзел як асобныя грамадзяне, маючыя творчую кваліфікацыю (архітэктары, скульптары), так і творчыя калектывы.

На бліцконкурс падаюцца наступныя матэрыялы:

1. Генплан у маштабе 1:500; (50х50).
2. Перспектыва ці фотамантаж (наклееныя на кардоне 50х50).
3. Макет альбо мадэль помніка (гіпс, пластылін, па выбары аўтара).

Усе конкурсныя матэрыялы падаюцца пад дэвізам і азначаюцца шасцізначнай лічбай (вышыня шрыфта 1 см), якая наносіцца ў правым верхнім вугле ўсіх падаваемых матэрыялаў, а таксама на дэвізным канверце, дзе знаходзяцца звесткі пра аўтара.

Падача конкурсных праектаў у Мінску па адрасе: праспект Скарыны, 47, Музей сучаснага беларускага мастацтва. Праектныя матэрыялы, якія не адпавядаюць праграме і ўмовам конкурсу, разглядацца не будуць.

Журы конкурсу вызначае лепшыя праекты помніка, якія плануецца накіраваць у г. Полацк для арганізацыі іх выстаўкі. Выстаўка дазволіць пазнаёміць з праектамі грамадскасць горада і ўлічыць яе меркаванні пры вызначэнні пераможца конкурсу рэспубліканскім журы.

Канверт з дэвізам аўтара, вызначанага пераможцам, ускрываецца. Аўтар-пераможца конкурсу атрымлівае права на стварэнне помніка Еўфрасінні Полацкай у г. Полацку.

Праграму і ўмовы ўдзельнікам конкурсу прадстаўляе Міністэрства культуры (аддзел музеяў і выставак). Тэлефон для даведак: 226-96-59. З неабходнымі для конкурсу матэрыяламі ўдзельнікі конкурсу могуць пазнаёміцца ў Саюзе мастакоў (т. 227-37-23).

ВЫСТАВЫ

# Камп'ютэрны жывапіс дзяцей

У мінскай дзіцячай школе N 1 адкрылася першая выстава камп'ютэрнага жывапісу хворых дзяцей. Усе яны — пацыенты клінікі "Аксакаўшчына". У 1996 годзе пры дапамозе Чарнобыльскага дзіцячага фонду Японіі, па ініцыятыве загадчыка лабараторыі тыраідалогіі НДІ радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі Валянціны Дрозд і загадчыка кафедры матэматыкі і методыкі яе выкладання БДПУ Уладзіміра Драздa ў клініцы на грамадскіх пачатках быў арганізаваны Навучальны рэабілітацыйны цэнтр.

У клініцы дзеці жывуць па некалькі месяцаў у год. Таму цэнтр арганізоўвае школьныя заняткі, але, акрамя гэтага, дапамагае ім навучыцца працаваць на камп'ютэры і займацца мастацтвам з яго дапамогай. Працуюць з дзецьмі студэнты Педагагічнага універсітэта.

Вынікам гэтай работы стала выстава іх работ. На выставе 40 твораў. Сама база дадзеных цэнтра налічвае каля 2000 такіх работ. Выстава ўражвае. І таму, што яна арыгінальная камп'ютэрнай апрацоўкай жывапісных фантазій дзяцей, і таму, што прадстаўляе сапраўды неардынарныя знаходкі. Ці ж не ўразіць карцінка трохгадовага хлопчыка "Чалавек-гадзіннік"?

Выстава стала першым крокам сумеснага праекта Міжнароднай гільдыі жывапісцаў (прэзідэнт Ф. Ястраб) і Навучальнага цэнтра (кіраўнік У. Дрозд) па педагагічнай рэабілітацыі дзяцей, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС, сродкамі выяўленчага мастацтва. На падставе выставы гільдыя мяркуе выдаць альбом і прадставіць дзіцячыя работы за мяжою на сусветнай выставе ЭКСПА-2000 у Гановеры.

Магчыма, гэта дапамога цэнтру знайсці спонсараў і новых сяброў. Справа ў тым, што цэнтр месціцца ў невялікім памяшканні і толькі заканчэнне будаўніцтва новага корпуса дазволіць яму пашырыцца. Праблемай застаюцца і матэрыяльныя магчымасці цэнтра, яго тэхнічнае абсталяванне. Як грамадская арганізацыя цэнтр можа атрымліваць дапамогу толькі на дабрачынных пачатках.

**Н. Ш.**



*На здымку: прэзідэнт Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Ф. ЯСТРАБ.*

ВІНШУЕМ!

# "Цік-так", — ходзікі...

Далей, у рыфму, беларускія дзеткі пяюць: "Мне чатыры годзікі". А на расійскай эстрадзе, якая падхапіла гэты шлягер, яго немудрагелісты прыпеў гучыць з лёгкай ироніяй: "Тик-так", — ходики, пролетают годики.."

І праўда: пралятаюць! І вось ужо гадзіннік Эдуарда Ханка, аўтара гэтай папулярнай песні, адмераў 60 гадоў.

У адрозненне ад тыповых юбіляраў кампазітар Э. Ханок можа не толькі замілавана ўспамінаць былое, але і з упэўненасцю глядзець у заўтра. У былым — Брэсцкая, а потым і Мінская музычныя вучэльні, першыя ўрокі кампазіцыі ў маэстра Я. Глебава, грунтоўная адукацыя ў Маскоўскай кансерваторыі, доўгія гады працы ў Брэсце, ранняя і стабільная ўсесаюзная папулярнасць. Былі вакальна-сімфанічныя палотны, музыка для тэатра і кіно. Былі і застаюцца песні, з якіх ці не кожная — шлягер свайго сезона, свайго асяроддзя. Песні, сярод якіх знаходзілі сваю "Песняры", "Верасы" і "Сябры", А. Пугачова, М. Пахоменка і Э. Хіль...

Былі песні, зарыентаваныя на "палітычны момант". Былі, ёсць — зарыентаваныя на дэмакратычную публіку, на шчырыя чалавечыя пачуцці: "Завіруха", "Вы шуміце, бярозы", "Жаўраначка", "Малиновка", "Я у бабушки живу", "Песенка первоклассника", "Сумны саксафон"...

З палемічным запалам піша Э. Ханок пра законы жыцця на эстрадзе, пра вядомых выканаўцаў, пра падзеі ў культуры. Магчыма, яго чарговыя артыкулы і кнігі спародзяць новыя дыскусіі. Але няхай галоўнай нагодай для людскіх размоў і адзнакай актыўнага творчага даўгалецця кампазітара будуць ягоныя песні.

**С. ВЕТКА**



*На здымку: народны артыст Беларусі Эдуард ХАНОК з дачкой Святланай.*

ПАДЗЕІ

# Музыканты адкрылі... Музыкантава

Незалежна ад вынікаў спаборніцтва адзін прыз ён мусіў атрымаць абавязкова — як самы юны ўдзельнік Міжнароднага конкурсу "Мінск-2000". А выйшла так, што наш суайчыннік, 16-гадовы Аляксандр Музыкантаў, выхаванец прафесара Зоі Качарскай, сабраў самы багаты ўраджай узнагарод. 1-я прэмія і званне лаўрэата; спецыяльныя прызы — навуковай рады Беларускай акадэміі музыкі, Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі, сімпатый гледачоў. А яшчэ — за лепшае выкананне абавязковага твора беларускага кампазітара А. Літвіноўскага ("Перпетуум мобіле і Пасакалля"). І асабіста — ад чальца журы, знанага піяніста з ЗША Дэніэла Полака.

Лаўрэатамі 2-й і 3-й прэмій названы Іна Салдаценка (Украіна) ды Заруі Амбарцумян (Расія).

Больш падрабязна пра конкурс пагаворым у наступных нумарах "ЛіМа".

**С. Б.**



*На здымку: пераможца Міжнароднага конкурсу "Мінск-2000" Аляксандр МУЗЫКАНТАЎ.*

*Фота М. ПРУПАСА*

ГАСТРОЛІ

# Час ускладняць задачы

Абмен гастролямі — даволі распаўсюджаная на сёння з'ява. У рамках такіх узаемных гастроляў пабываў у сталіцы і Мінскі абласны з горада Маладзечна. Яго спектаклі не засталіся неўзаважанымі, і многія праходзілі пры поўных залах. Ля будынка Маладзёжнага тэатра ўжо грузілі дэкарацыі, а ў зале праходзіла падвядзенне вынікаў — з удзелам вядучых спецыялістаў і, вядома, у прысутнасці калектыву.

На "круглым стале" не толькі абмеркавалі паказаныя спектаклі, але і прасачылі тэндэнцыі развіцця калектыву за 10 год, адзначылі клопат па фарміраванні рэпертуару. У афішы прадстаўлены і сучасныя беларускія п'есы, і замежныя, і творы для дзяцей, прычым у вельмі гарманічнай прапорцыі. Кожны сезон адкрываюцца новыя імёны. Тут ажыццяўлялі пастаноўкі А. Караткевіч, У. Забэла, Р. Таліпаў, Г. Баравік, а магістральны кірунак тэатра вызначаюць галоўны рэжысёр, заслужаны дзеяч культуры М. Мацкевіч і загадчык літаратурнай часткі, паэт Мікола Шабовіч.

Паколькі ўдзельнікі абмеркавання гаварылі пра кожны з гастрольных спектакляў, то паспрабую прывесці водгукі ў стылі стэнаграмы. Нагадваю, што перавага крытычных заўваг выклікаецца жаданнем палепшыць спектакль, а не падкрэсліць яго слабасці.

**"Секс па перапісцы"** (па п'есе маладога пісьменніка Леаніда Вашко).

"Спектакль не вельмі ўраўнаважаны ў плане суадносін дабра і зла".

"Няма адзінай стылістыкі, не хапае культуры ў эратычных сцэнах. У акцёрскай ігры калектыву не заўсёды пазбягае правінцыялізму".

"Назва не адпавядае зместу. Хацелася нечаканасці, а атрымалася будзённа".

"Адметнасць спектакля — тры моўныя пласты".

**"Двое на арэлях"** (па п'есе амерыканскага драматурга У. Гібсана).

"Вядомая для нас п'еса. Дуэт Іўковіч — Кавалерава часам распадаецца".

"У свой час мы па некалькі разоў хадзілі ў Рускі на дуэт Клімава—Янкоўскі. Адбылася часавая змена (памянялася ўспрыманне): спектакль здаецца даўгаватым".

"Музычная тэма не развіваецца паралельна сцэнічнаму дзеянню".

"Удалая сцэнаграфія".

**"Восем закаханых жанчын"** (дэтэктыў французскага аўтара Рабэра Тама).

"На прыкладзе адной сям'і паказваецца ўвесь космас чалавечых ўзаемаадносін".

"Бяспройгрышная п'еса і ўдалы спосаб загрузіць актрыс".

"Прыкметна схільнасць да меладрамы. Героі выходзяць — і адразу адкрываюць усе карты, хаця жанр — дэтэктыў — патрабуе іншага".

"Добра зробленая бульварная п'еса, але ў ігры акцёраў няма ансамблевасці. Такое адчуванне, што рэжысёр "патануў" у акцёрах".

**"Караль"** (па п'есе польскага драматурга С. Мрожака).

"Адзін з лепшых гастрольных спектакляў — еўрапейскага ўзроўню. Востра ставіцца праблема канфармізму, узаемаадносін інтэлігенцыі і народа".

"Тонкае адчуванне жанру рэжысёрам. Можна глядзець не адзін раз".

"Класная акцёрская праца. Авангардная драма прыйшла да нас позна, але акцёрскую тэхніку ўсё ж узбагачае".

"Гэта спектакль пра нас. "Мы не вучоныя, мы страляем" — гэта не проста кінутая фраза, за ёй цэлая ідэалогія. Перад намі высокі ўзровень сацыяльнага аналізу і зладжаны ансамбль трох акцёраў. У рэжысёра В. Растрыжэнкава погляд на тэатр як на мадэль рэчаіснасці".

**"Вавілон"** (па аповесці У. Някляева "Вежа", аўтар інсцэніроўкі А. Дудараў).

"Не лепшая работа Дударава, якая і ў 90-ым годзе ў тэатры Якуба Коласа не мела асаблівага поспеху. Рэжысёру працаваць было цяжка, аснóўная думка не прачытваецца. Шмат састарэлых дэталяў. З акцёраў хацелася б адзначыць І. Кляпацкую і В. Багушэвіча".

"Нестыкоўкі ў самой драматургіі. У ранейшы варыянт прыўнесена шмат новага, ды гэта не пайшло на карысць спектаклю. Акцёры хуліганяць, педаліруе А. Пашкевіч".

"Першая пастаноўка, у коласаўцаў, была прыпавесцю, а тут, відавочна, трагі-фарс. Было смешна, значыць у гэтым нешта ёсць".

Спектакль для дзяцей **"Чарадзейства ў краіне Оз"** (аўтар інсцэніроўкі Г. Булыка) паглядзелі не ўсе з крытыкаў. А хто глядзеў, зрабілі такую выснову: заяўкі на шоу не атрымалася, спевы пад фанаграму парушаюць казачную ўмоўнасць.

Увогуле ж было зазначана, што тэатр не сумны, гастролі ўдаліся, добрай акцёрскай трупе час даваць больш складаныя задачы. У маленькага горада паблізу ад мегаполіса ёсць усе шанцы стаць тэатральным.

Засталося дадаць, што на "круглым стале" дзяліліся ўражаннямі тэатразнаўцы Л. Лявонава, прафесар А. Сабалеўскі, аспірантка Акадэміі мастацтваў Т. Каманава, Т. Арлова, доктар філасофскіх навук В. Салееў. А вёў яго начальнік аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення культуры А. Пятровіч.

**Запісала**
**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Спаборнічалі народнікі

У Лідзе прайшоў трэці фестываль народнай музыкі. У яго заключных мерапрыемствах бралі ўдзел больш за 600 самадзейных артыстаў з усіх раёнаў Гродзеншчыны. Фестываль арганізавалі ўпраўленне культуры аблвыканкама і абласны метадычны цэнтр народнай творчасці пры актыўным удзеле мясцовага гарвыканкама і гарадскога Дома культуры, на сцэне якога і адбываліся канцэрты.

Конкурс праходзіў па чатырох намінацыях. Сярод аркестраў народных інструментаў лепшымі сталі дзіцячы ўзорны аркестр Лідскай музычнай школы, а таксама народныя аркестры рускіх народных інструментаў і цымбалістаў мясцовага музвучылішча. Сярод інструментальных ансамбляў пераможцам народны калектыў "Фестываль" Лідскага Дома культуры. У намінацыі "ансамбль беларускай музыкі і песні" на першае месца выйшлі дзіцячы калектыў "Гулянок" Смаргонскай школы мастацтваў і народны ансамбль "Калі ласка" з Ліды. А інструментальны сямейны дуэт Людмілы і Генадзя Бутараў з Паразаўскага Дома культуры Свіслацкага раёна названы лепшым сярод салістаў.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Для музыкантаў, гісторыкаў, краязнаўцаў

Накладам у трыста асобнікаў выйшаў у свет зборнік "Музычнае мастацтва". Аналагаў выдання на Беларусі няма. Кнігу падрыхтавала група педагогаў Магілёўскага музычнага вучылішча на чале з Уладзімірам Зарэмскім. У яе ўвайшлі матэрыялы па гісторыі музыкі, біяграфічныя звесткі пра кампазітара Чуркіна і вядучых музыкантаў-педагогаў з абласнога цэнтра. Таму кніжка і выклікала цікаўнасць у музыкантаў, гісторыкаў і краязнаўцаў. Зборнік (а гэта ўжо другое выданне) выйшаў пры дапамозе Магілёўскай асацыяцыі "Кола сяброў" і фонду "IDEE".

## Выставы на вуліцы Болдзіна

У салоне-магазіне "Мастацтва" па вуліцы Болдзіна працуе экспазіцыя жывапісных і графічных работ магілёўскага мастака Аляксандра Суворава. Гэта пейзажы, якія створаны на працягу апошніх двух год. А ў выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў — персанальная выстава скульптара і выкладчыка мясцовага універсітэта Андрэя Вераб'ёва. Гэта яго першая выстава ў родным горадзе. А выстаўляецца скульптар аж з 1988 года і неаднаразова прымаў удзел у міжнародных пленэрах.

## Любяць тэатр у Краснаполлі

Абласны фестываль самадзейнай тэатральнай творчасці прайшоў у Краснаполлі. Адкрыўся ён прэм'ерным спектаклем "Фамільны скарб" па п'есе А. Шчадрына ў выкананні артыстаў з Краснапольскага народнага тэатра, якому сёлета спаўняецца 82 гады. На працягу тыдня доўжылася тэатральнае свята. Сваё майстэрства дэманстравалі народныя тэатры з Бялынічаў, Бабруйска, Кіраўска, Магілёва, вёсак Бабруйскага і Шклоўскага раёнаў. Фестываль закончыўся творчай вечарынай, прысвечанай 50-годдзю з дня стварэння самадзейнага тэатра Бабруйскага Дома культуры.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Лявон Доўбуш у Кобрыне

Шматлюдна гэтымі днямі ў Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі — тут адкрылася выстава "Мая Брэстчына", экспазіцыю якой склалі акварэльныя працы знанага берасцейскага мастака Лявона Доўбуша.

## Музей у Расне

Асабліва адзначыць двухтысячагоддзе хрысціянства мяркуюць у вёсцы Расна Камянецкага раёна. Тут захавалася памяшканне касцёла, які быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі. Побач месціўся магільны склеп графскага роду Грабоўскіх. Упраўленне культуры аблвыканкама і старшыня мясцовага калгаса "Савецкая Беларусь" Уладзімір Бядуля — робяць канкрэтныя захады па рэстаўрацыі помніка.

## Шануючы Напалеона Орду

Другое нараджэнне перажывае палеская вёска Варацэвічы, што ў Іванаўскім раёне. Летась тут адчыніла дзверы новая школа. А цяпер абласны фонд імя Напалеона Орды сумесна з аддзелам культуры райвыканкама прынялі рашэнне аб стварэнні тут музея Орды — сусветна вядомага мастака, музыканта і кампазітара, педагога і навукоўца, сучасніка і блізкага сябра Міцкевіча і Шапэна. Менавіта ў Варацэвічах Орда і нарадзіўся. Зараз ідзе збор экспанатаў для музея. Дарэчы, надоечы ў райцэнтры быў устаноўлены помнік слыннаму земляку.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Дзень філфака

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце прайшоў Дзень філалагічнага факультэта. Студэнты паказалі спектакль "Пінская шляхта" па п'есе Дуніна-Марцінкевіча. Прайшоў конкурс насценных літаратурных газет. Цікавым было ток-шоу "Адкажы на пытанне". Адбылася і ўзнагарода пераможцаў конкурсу паэзіі "Літаратурная хваля: філфак-2000". Закончылася свята канцэртам мясцовых творчых калектываў.

## Разьба, ткацтва, вышыўка...

У абласным цэнтры народнай творчасці адкрылася выстава народных майстроў Гомельшчыны. На ёй прадстаўлены жывапіс, разьба па дрэве, ткацтва, вышыўка, пляценне з лазы. Экспануюцца работы 60 аўтараў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Традыцыі авангарду

У выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў адкрылася выстава сучаснага мастацкага авангарду "УНОВИС". У 20-ыя гады віцебская мастацкая школа адкрыла свету сваю канцэпцыю зацвярджальнікаў новага мастацтва (на чале з Казімірам Малевічам). 80-годдзю гэтага творчага аб'яднання прысвяцілі свае творы А. і Г. Фалей, В. Шылко, А. Дасужаў, А. Малей, В. і Г. Васільевы, А. Салаўёў.

## Вандалы на магіле Ю. Пэна

З магілы вядомага мастака Ю. Пэна днямі знік бронзавы бюст. У вандалізме абвінавачваецца 15-гадовы юнак, які пражывае побач са Стара-Сямёнаўскімі могілкамі ў Віцебску. Па прызнанні падлетка, ён такім чынам хацеў паправіць фінансавае становішча сваёй сям'і. Скрадзены бюст хлапец прадаў скупшчыкам за 8,5 тысячы рублёў. Далейшы след помніка страчаны.

**Святлана ГУК**

*Мяне спыталі: дзе ты хочаш жыць?*
*Я адказаў: на Беларусі...*

**Барыс ПЯТРОВІЧ**

*— Вы адкуль, з Беларусі?*
*— Я быў з Беларусі...*

**Кірыла ПАЗНЯК**

# Выбіраю радзіму...

## ЧАТЫРЫ МАНАЛОГІ НА ЗАДАДЗЕНУЮ ТЭМУ

"Радзіму не выбіраюць", — супакойваем мы сябе, у чарговы раз чакаючы своечасовай выплаты заробку, абыякавымі вачмі праглядваючы бадзёрыя "бэтэшныя" навіны, ціха вар'яцеючы ад авітамінозу і інфляцыі. Так супакойвае сябе пагарэлец пасярод горкага прысаку: а не бяды, бывае й горш, галоўнае, што жывы пакуль. Радзіму не выбіраюць... Хто супраць, калі гаворка пра месца нараджэння і жыхарства. Не выбіраюць краявід і клімат. Усё астатняе — лад жыцця і чын думак, светапогляд і пазіцыю, урэшце, мінулае, сённяшняе і будучае ўласнай дзяржавы — адраджаюць, захоўваюць і назапашваюць уласнымі рукамі. Кожны па-свойму, на ўласны капыл, абапіраючыся на асабістыя вопыт, веравызнанне, мараль, адукацыю, густ...



### "І ніякай палітыкі!"

...маці мая ўкраінка, бацька — рускі, сам я з Беларусі. Але голуб, які нарадзіўся на стайні, ці мае права называцца канём? Смешна! А таму ніякіх разваг пра нацыянальнае пытанне. Дабром гэта ніколі не заканчвалася. Чачня — бясконцы доказ таму. І што яны там адстойваюць? Любы чачэн запэўніць — нацыянальную годнасць. А я перакананы — нафту... Я не касмапаліт. Я грамадзянін свету, выхаваны на рускай культуры. Даруйце, так атрымалася. Таму і думаю па-руску, хоць і давялося нарадзіцца сярод буслоў і блакітных азёраў. Не мрою пра волю, незалежнасць і дэмакратыю. Пустыя словы! Няхай у іх гуляюцца тыя, хто ні на што не варты, апрача бездапаможнага славаблудства. Мітынгі, пікеты, маршы — усё гэта не з майго жыцця. Якая незалежнасць? Мая жыццёвая пазіцыя не стасуецца з бясконцымі пошукамі таго, чаго проста няма на гэтым свеце. Як не стасуецца малако з гарэлкай, а палітыка — з мараллю. Здаецца, Розанаў калісьці даводзіў: "Я яшчэ не такі нягоднік, каб думаць пра мараль". І пра палітыку. І пра нейкую цьмяную, падмацаваную толькі дэкларацыямі, нацыянальную ідэю. У мяне няма радзімы. Я не магу любіць дзяржаву, якая ставіцца да ўсіх з абыякавасцю пустагаловага ідала. Я не магу паважаць зямлю толькі за тое, што на ёй нарадзіўся. Цынізм? Не. Цвярозая ацэнка сітуацыі пры поўнай адсутнасці бессэнсоўных эмоцый. Давайце ўрэшце перастанем быць істотамі з савецкай арыентацыяй. Мая радзіма і мая дзяржава — уласная сям'я. Толькі ў яе межах я — прэзідэнт, міністр абароны, харчавання і сацыяльнага забеспячэння. Адзіны пункт маёй адзінай сацыяльна-эканамічнай праграмы — быць бетонным плотам паміж сям'ёю і тым злом, якое хтосьці назваў дзяржавай і яшчэ горш — радзімай. Хто супраць, няхай успомніць, колькі разоў Бацькаўшчына яго падманвала. Хопіць! Няхай мая незалежнасць і адносная. Але яна — мая. І спадзяюся пры гэтым толькі на ўласны розум. Ды яшчэ на вопыт калісьці раскулачанага і ні за што расстралянага дзеда. Чым займаюся дзеля ажыццяўлення асабістай "прэзідэнцкай палітыкі"? Ды якая розніца! Хаця б і камерцыяй. Не забіваю, не рабую, перапрадаю рэчы, набытыя ў Расіі. Мая "інтэграцыя" больш плённая. Для мяне, натуральна. Сям'я не галадуе. І не трэба мне казаць, што мой дабрабыт абарочваецца для кагосьці жабрацтвам. Маўляў, чым больш іншамарак на вуліцах, тым больш бамжоў пад плотам. Лухта! Лайдачыць трэба меней! Сваё жыццё кожны робіць сам. Кулацкая філасофія? Так! Пра яе яшчэ Міхал Тварыцкі з рамана Чорнага гаварыў: чалавек чалавеку — воўк. Са школы пра гэтага апантанага беларуса-працаўніка памятаю. Яму — веру. Дзяржаве — не! Асабліва беларускай. Нейкая заканадаўчая імпатэнцыя навокал, падаткаў — вышэй галавы, сацыяльна-эканамічных правоў — аніякіх. Так што дабрабыт мой ды незалежнасць хісткія і ненадзейныя. Але ніякай палітыкай займацца не збіраюся. Ніякія перавароты становішча не зменяць. А барацьба, нават справядлівая, яшчэ нікога лепшым не зрабіла. У вулічнай бойцы не бывае перамог — адно толькі гузакі ды зласлівасць. А дзяржава, паважаныя, для таго і існуе, каб забараняць, прыціскаць і запалохваць. І не дай бог атаясамліваць яе з радзімай. З усяго гэтага вэрхалу толькі адна карысць — дзяржава навучыла мяне быць разумным у свой бок. Злуюся, але цікава, хто ж у мітусні гэтай на плыву застанецца, хто выжыве? Асабіста я здавацца не збіраюся. Кручуся як рухавік вечны. Суну хабар райвыканкамаўцам, падатковай ды рынкавай мафіі. Суну не дзеля таго, каб абысці закон, а толькі для таго, каб ён урэшце запрацаваў. Наладжваю сувязі з аптавікамі, мяняю асартымент у залежнасці ад попыту. Так, аб пашырэнні бізнесу і гаворкі няма. Пры людскіх законах ды пры сапраўдных рынкавых адносінах меў бы на сёння мо з дзесятак магазінчыкаў. А так — адна палатка. І толькі таму, што палову даходаў прытойваю. Яна — гэтая палатка — адзіная мая дзяржава і радзіма. А жонка з дачкой — адзіныя іх насельнікі. І ніяк інакш! Жыве толькі той, хто выжывае. Так што ў сям'ю пасля працы вяртаюся як пасля вайны...

### "А што яшчэ, калі на плячах пагоны?"

...у сям'ю пасля працы вяртаюся як пасля вайны. Натуральна, цяжка. Але я паважаю сваю працу. Так, не люблю, а паважаю. Яна мне дала ўсё. Прапіску, даволі неблагі і стабільны заробак і ўрэшце — упэўненасць. Упэўненасць у тым, што я раблю карысную для маёй радзімы справу. Гэта не быкам на вёсцы хвасты круціць. На жаль, не ўсе гэта разумеюць, не ўсім гэта даспадобы. Але камусьці ж трэба адстойваць уладу і закон. Уладу, без якой не можа быць дзяржавы. Закон, без якога не парадак, а бяспраўе... Я — міліцэйскі сяржант. Я захоўваю ваш спакой. Я санітар, які ратуе грамадства ад бруду і хваробы. Колькі ж развялося тых, каму карціць парушыць стабільнасць і адзінства! Не разумею нашага лейтэнанта, які пастаянна ва ўсім сумняваецца. Маўляў, закон на Беларусі адстае ад жыцця. Не разумею, не хачу разумець. Хоць і з гарадскіх гэты лейтэнант, з адукаваных — а туды ж. А мо менавіта з-за адукацыі ўсё гэта: паскакаў па вярхах у сваіх універсітэтах і думае, што Бога за бараду ўхапіў. Не, ну скажыце, дзе вы бачылі міліцыянера з гэткімі апазіцыйнымі выбрыкамі? Таму і служыць подбежкі, але не вельмі хапаючыся, усё думае-разважае пра штосьці. Даўно да яго прыглядаюся. Калі трэба ў натоўпе вулічным уладу зацвердзіць, аператыўна і бязлітасна, — ён вочы адводзіць, нібы дзеўка на заручынах. Калі загадана прававую дзяржаву без стомы адбудоўваць (у нас у аддзеле штодня пра гэта на лятучках гаворка) — ён мальцоў-студэнтаў з бел-чырвона-белымі сцягамі шкадуе, затрымліваць ды перавыхоўваць іх не жадае. Відаць, у самога сынок гэткі ж. Не, не месца яму ў нашых шэрагах. Загад ёсць загад, служба ёсць служба. І калі на плячах пагоны міліцэйскія, які можа быць сумнеў?! Так краіну да пустога канца давесці можна. Не, правільна ў нашай вёсцы казалі: добрую травіну людзі сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца... Вы пытаецеся, ці люблю я радзіму? Вёску маеце на ўвазе ці Беларусь увогуле? Даруйце, неяк не думалася пра гэта. Я ж пасля школы паўгода ў калгасе, потым — войска, а пасля — у міліцыю па камсамольскім наборы. А за гэты час і вёска знікла — чарнобыльская яна, адселеная. Так што і на радаўніцу не кожны год наведваюся. Тым больш, нейкія бежанцы чарнатварыя там атабарыліся... Быццам і няма ўжо ў мяне радзімы. Дый асабліва па вёсцы не бядую. У горадзе вальней неяк, культурней дый магчымасцяў болей. Як кажуць, будзе людзям, будзе й нам. Вось толькі каб зубы на мітынгах тыя гарлапаны не сушылі, а за працу ўрэшце ўзяліся. Во б яно наўкола і палепела б. Ды каб яшчэ людзі паважаць нас навучыліся. Зачыстку элементарную дзеля правапарадку не называлі б хапуном... Зайздрошчу расійскім мянтам. Знялі пра іх знакаміты серыял (там хлопцы-аператыўнікі і гарэлачку п'юць весела і гэтак жа са злачынствам упраўляцца паспяваюць), па тэлеку паказалі — адразу аўтарытэт міліцыянерскі ўзняўся. Пра нас бы хто так... А ў прынцыпе, усё ідзе як мае быць. Улады аддаюць загад, мы яго выконваем, а людзі працуюць. Захаваем парадак, захаваем і радзіму-Беларусь... Дарэчы, яшчэ адна навіна ў мяне радасная — ажаніўся ўрэшце, аднапакаёўку абяцалі даць...

### "Шлях цяжкі, але адзіны і мой"

...адна ў мяне навіна радасная — ажаніўся. А аднапакаёўку як не збіраліся даваць, трасца на іх, так і не збіраюцца. Малады настаўнік, кажуць. А ты ж ведаеш, у нас і да скону ў маладых прабадзяешся. А маладых на Беларусі ўвогуле няма. Такое ўражанне, што і нараджаюцца ўсе са састарэлай тугой у вачах і з чаркай гарэлкі ў здранцвелай руцэ. Такімі ж, безнадзейна змрочнымі і нерэалізаванымі, і паміраюць. А як не хочацца! Бачыць, што наўкола робіцца, сядзець абыякава рукі склаўшы. Мо не позна? Мо яшчэ паспеем? А памятаеш, як нам Штэйнер лекцыі ў Гомелі чытаў? Пра Багдановіча, пра Багушэвіча! Пра змагароў-волатаў духу нашага беларускага. Якія асобы! Якія постаці велічныя! Чаму мы так здрабнелі? Слухай мяне, слухай, мы ж так даўно не бачыліся, дай выгаварыцца. У вас у Мінску, відаць, не так. Больш праўды, больш адкрытасці, няма гэтага страху. Га? Нікому не казаў, толькі табе. Мне страшна. Не за сябе — губляць няма чаго. За дзяцей, за будучыню. Неяк на ўроку, калі дыялог Лабановіча з Турсевічам разбіралі (ну, памятаеш спрэчку пра рэвалюцыю і эвалюцыю?), адно дзяўчо і запыталася адкрыта: "А вы, спадар настаўнік, якой пазіцыі прытрымліваецеся?" Маўляў, за змены вы ў грамадстве ці перасядзець збіраецеся. Не, не правакацыя — пытанне шчырае. Дый бацькоў яе ведаю — людзі прыстойныя. Хвалюецца дзяўчынка, верыць, спадзяецца на штосьці. А што ёй адказаць? Сам не ведаю, што рабіць. Чакаць? Змагацца з нечым? Кагосьці пераконваць, што ёсць у нашай радзімы шматпакутнай будучыня і толькі ад нас залежыць зараз, якой яна будзе? Дружа, гэта ж так проста, усім думаць пра адно, адстойваць гэтае адно. Талакою, усім родам беларускім. Проста! Аднак чаму мы не разам, чаму ў кожнага свой шлях, іншым разам такі дробязны ды шкурны... Таму й страшна. А тут яшчэ й праца гэтая. Хто ў купалаўскія часы самым паважаным на Беларусі быў? Так, пан настаўнік. А зараз? Сорам адзін. Паверыш, ніякага задавальнення. І не ў грашах справа — ніколі іх шмат не было. Неяк безвынікова ўсё. Праграма ледзь не штогод мяняецца, падручнікі новыя, методыкі. У час іспытаў калі старшакласнік пры адказе дыялектызмы ўжывае, яму адзнаку ў адпаведнасці з устаноўкай зніжаць трэба. Вэрхал! Здзек з мовы! А рэфарматары нашы і па сёння не ведаюць дакладна як напісаць школьніку: "работа па развіцці мовы" ці "па развіццю". Як была наша школка савецкай, так ёю і засталася. Паказуха на першым плане. Не якасць ведаў турбуе, а колькасць медалістаў. А з тых медалістаў ліпавых ніхто на бясплатныя факультэты так і не паступіў. Толькі за грошы. І каго падманваем!.. Як я, філолаг, растлумачу старшакласнікам, чаму беларускі пісьменнік Быкаў зараз у Нямеччыне? Як я, беларусіст, перакана́ю іх, што родная мова — аснова ўсяму, пачатак наш і працяг, калі, акрамя мяне, ніхто на ёй у нашым райцэнтры і не размаўляе? Як, скажы, дружа? Руская — мова рэжыму. Родная — прычына падазронасці і здзекаў. "Ты чего выпендриваешься, как все говори!?" А мне надакучыла "як усе", надакучыла чакаць, падманвацца і пастаянна палохацца таго, чым я павінен ганарыцца. А калі сын народзіцца?! Як мне з яго беларуса зрабіць? Калі раздрай гэты і надалей доўжыцца будзе, пойдзе ён з роднай мовай у садок, школу — а там усё па-руску. І не ў разнамоўі справа — у нечым большым: беларусы, як здані — быццам ёсць, а быццам і няма. І з кожным годам усё меней народу на маёй Бацькаўшчыне, усё больш насельнікаў з сумнымі вачмі... Скажы, магу я дазволіць, каб мой родны дом інтэрнат нагадваў? Каб дзеці ў ім беларускага палохаліся? Каб чужынцы тут кішэні набівалі ды смяяліся з нас, небаракаў? Не! Радзіма знікае, калі знікае апошні яе сын. А я ж не апошні. І сын народзіцца. А што знікне мая радзіма з усіх палітычных мапаў свету, я проста не веру...

### "Гонар жыць на Беларусі!"

...я проста не веру нікому. Ні бэпэсэмаўцам, ні маладафронтаўцам. Першыя з непрыхаваным цынізмам прабіваюць сабе кар'еру, другія — бойскаўты з нацыяналістычным адценнем, якім ніяк не надакучыць бавіць час у дзіцячых гульнях. З іроніяй слухаю ветэранаў, якія ў залежнасці ад настрою ці палітычнага моманту, альбо бяздумна ўхвальваюць сённяшнюю моладзь, альбо гэтак жа бяздумна бэсцяць. А маладосць на тое і маладосць — летуценная ды неабачлівая. Часовы прыпынак паміж юнацтвам і старасцю. Але толькі ў гэты прамежак часу чалавек і паспявае зрабіць тое, дзеля чаго нарадзіўся. Гэта толькі здаецца, што ні ідэалаў у нас, ні святой веры, а мараль толькі даўжынёй міні-спадніцы і вымяраецца. Мне не патрэбны пенсіянерска-ветэранскі вопыт, патрыятычнае выхаванне ў жорсткіх рамках савецкай ідэалогіі. Я вучуся сам і па магчымасці на чужых памылках. Бацька кажа, што я максіміліст. А ў нашым эканамічным каледжы ўсе такія. І пры чым тут насамрэч выхаванне на гераічных прыкладах з няўдалага мінулага сённяшніх пенсіянераў. У нас — сваё мінулае, свая будучыня, свае войны. Колькі ўжо год запар мае равеснікі (і рускія, і чачэнцы) гінуць ні за што ў бязглуздай бойцы?! Я нікому не веру. Палітыкам, пісьменнікам, настаўнікам. Нават бацьку. Сваё няўдалае жыццё ён апраўдвае беларускім эканамічным заняпадам. Маўляў, яшчэ зусім нядаўна завод іхні 70 працэнтаў прыбыткаў вытворчасці пакідаў сабе, а 30 аддаваў дзяржаве. Зараз — наадварот. Маўляў, "неэквивалентный бартерный обмен" ды інфляцыя вінаваты ў тым, што большая палова беларусаў — жабракі. А гэтая большая палова сама калісьці выбрала для сябе гэтую долю. Мне іх не шкада. Я не патрыёт, не нацыяналіст, але за свае няпоўныя 20 год я пабачыў свет. Працаваў рознарабочым у Італіі, Германіі. Я навучыўся паважаць сябе. Грошы, якія мы зарабляем з сябрамі ва ўласнай фірме, — практычны доказ таму, што з нас атрымаліся неблагія эканамісты. Фінансавае забеспячэнне прыватнага бізнесу нават ва ўмовах бязглуздага беларускага рынку — рэч канкрэтная. А мы ж яшчэ толькі вучымся... Мне здаецца, я ведаю прычыну ўсіх беларускіх бедаў. У нашай мове няма дакладнага аналага слова "честолюбие". Няма слоўнага аналага — адсутнічае і само паняцце — нацыянальны гонар. Быў калісьці, але раптам знік як рублёвая каўбаса і танны партвейн... Я вывучаю філасофію, сацыялогію, права. Я ведаю беларускую мову. Як, зрэшты, і ангельскую. Вывучыў сам. З прынцыпу. Яны мне спатрэбяцца. Каб навесці парадак у краіне, дзе жыву. Каб Беларусь стала для мяне сапраўднай радзімай, утульнай і прыстасаванай для людскага жыцця. І гэты парадак будзе эканамічным. Толькі яна, рынкавая эканоміка, і павінна вызначаць палітыку. І я не баюся палітыкі. Брудная яна толькі тады, калі займаюцца ёю людзі з бруднымі рукамі... І мне шкада тых, хто не зразумеў, што гонар жыць на Беларусі выпадае толькі тым, хто гэтага варты. І я рады, што нас, маладых і з гонарам, ужо шмат. Колькасць заўжды пераходзіць у якасць. А эканоміка — навука дакладная. І разумовыя паняцці "вера, любоў і надзея" без эканамічнага абгрунтавання і сацыяльна-прававой абароны — не больш чым пусты гук. Як, зрэшты, і бездапаможныя памкненні сённяшніх палітыкаў "закрепить достойное место Беларуси в мировом сообществе"... Мая Беларусь пачынаецца з мяне. І я веру ў свае сілы... Дарэчы, маці мая ўкраінка, а бацька — рускі...

●

Працяг будзе. Хацелі б мы таго ці не. Мы, узнёслыя і прыземленыя. Мы, маладыя і састарэлыя. Мы, перакананыя і зняверaныя. Мы, беларусы і не вельмі. Мы, такія розныя і такія аднолькавыя. Мы, якія жывём ад першай асобы і выжываем з чужога розуму... Працяг будзе.

**Яўген РАГІН**

Быў час, калі Платон Крэнь дзівіўся: "Як гэта шматтысячныя натоўпы людзей дзесяткі гадоў жывуць тут у зняволенні, церпяць здзекі?.. Хто загіпнатызаваў іх у рабскай пакорлівасці свайму лёсу?" Між тым далёка не ўсе вытрымлівалі фізічную і маральную катаргу, як пазней ён заўважыў і потым адлюстраваў у сваіх творах, — многія паміралі, некаторыя вар'яцелі, сёй-той наўмысна сек сабе руку, іншыя спрабавалі ўцячы... Платон Крэнь удала намаляваў вобразы шэрагу не толькі начальнічкаў-падонкаў, а і вобразы цудоўных, шчырых людзей, сярод якіх — юнак з Валыні Іван, доктар Кулікоўскі, прыгажуня і пакутніца Вольга, а разам з тым — жудасную карціну сталінскага часу. Заўважым: гэта было ў пачатку 50-х гадоў, калі наш чытач нават не чуў яшчэ хоць бы пра Аляксандра Салжаніцына...

**4**

Адзін з раздзелаў кнігі "Бывай, Ярашоўка" — паэтычны. Платон Крэнь ствараў свае вершы ў той час, калі на нашай літаратуры, асабліва на паэзіі, літаратурнай крытыцы і публіцыстыцы, ляжала пячатка ідэалагічных догмаў, цемрашальскае тэорыі абвастрэння класавай барацьбы, калі ў творчым працэсе панаваў стан здранцвення. За норму лічылася ўслаўленне вусатага "бацькі ўсіх народаў" і пануючага грамадска-палітычнага ладу. Праніклівыя лірычныя вершы, а тым больш інтымнага характару, асуджаліся як нявартыя сучасніка, усялякі намёк на тугу, адзіноту лічыўся праявою ўпадку. Ідэалогія атручвала майстроў мастацкага слова, у тым ліку самых вядомых, нават некаторых з тых, што пабывалі за кратамі, — і яны, відаць, самі не заўважалі, як грашылі ўгодлівасцю, ілжывым пафасам, пампезнасцю. Не ведаю, што (пэўна, улюбёнасць у класіку) ратавала Платона Крэня ад такіх грахоў; ва ўдушлівых умовах ГУЛАГу прасцей за ўсё было зламацца, а ў варунках адноснае волі — так лёгка трапіць пад уплыў "маякоў".

У лірычнай паэзіі Платона Крэня, як, дарэчы, і ў прозе, скрозь прысутнічае шчырая душа беларуса, яго менталітэт, у радках і між радкоў пульсуе сэрца патрыёта, поўнае любові сэрца сына, бацькі, брата, — Чалавека. У яго чыста беларускае мысленне, беларускі дух, што пацвярджае не толькі створанае на роднай мове, а і на расійскай, якая ў яго перасыпана беларусізмамі. Вершы пяшчотныя, цёплыя, часам дасціпныя; як правіла, яны багатыя (асабліва рускамоўныя) на паэтычныя метафары, у іх суровая ява чалавека, пазбаўленага волі, часта пераплятаецца з такою праніклівай тугою па родным краі, па крэўных людзях — матулі, дачушцы, сынах, па страчаных гадах! У кнізе ажно адзінаццаць вершаў-лістоў, звернутых да дачкі Ірынкі. Краса і сіла пачуццяў аўтара, яго роздумы пра маладосць, старасць, жыццё і смерць нярэдка дасягаюць вышэйшых сфераў чалавека духу. Паэта шмат што хвалявала, аб чым нам гавораць вершы грамадзянскага гучання: "Иван Демчишин", "Сказание о Кудеяре", "Царь-опричник", "Тюрьма", "Унжлаг" ды іншыя. Адно шкада: кніга Платона Крэня, праўдзіва-ўзрушальная, не выходзіла пры жыцці аўтара. Рыхтуючы рукапіс да друку, ён, пэўна, штосьці дадаў бы, нешта зняў бы, што-нішто паправіў бы.

У час працы над гэтым артыкулам шукала стомленая душа нейкае палёгкі — і рукі памкнуліся да першага тома поўнага збору твораў Максіма Багдановіча. Кніга разгарнулася на старонцы, дзе змешчаны трыялет з такімі словамі:

***Красу, і светласць, і прастор***
***Шукаў — і, ад усіх далёкі,***
***Ты быў, як месяц, адзінокі:***
***Самотна жыў, самотна ўмёр.***

**Васіль ЖУКОВІЧ**

---

нік "Геаграфія Беларусі". Мінулі гады, шмат што змянілася на прасторах нашай Бацькаўшчыны, але і сёння кніга А. Смоліча застаецца прыкладам і ўзорам таго, як трэба ствараць школьныя падручнікі, каб на іх выхоўваліся не толькі адукаваныя людзі, але і шчырыя патрыёты роднай зямлі.

Наклад кніжкі — 1000 асобнікаў. Хіба ж гэта адзнака масавага выдання? І гэтая акалічнасць не можа не засмуціць. Такі мізэрны наклад губіць на корані добрую, карысную справу, якую робіць выдавецтва "Тэхналогія". Гэта яшчэ адно чарговае сведчанне ў бясконцым ланцугу сведчанняў таго, што нешта не тое дзеецца ў нашай краіне. Кніжка пра А. Смоліча, на добры лад, павінна была б быць у кожнай школе, у кожнай бібліятэцы, у кожным дзіцячым доме Беларусі, у кожнай сям'і, урэшце, у якой ёсць дзеці школьнага ўзросту. Бо дзеці нашы павінны ведаць **такіх** сыноў Бацькаўшчыны, як Аркадзь Смоліч. І калі кніжка пра яго выходзіць гэткім мізэрным тыражом, значыць, нехта недзе свядома робіць гэта: каб дзеці нашы не ведалі, не памяталі, не шанавалі гэтае імя, каб раслі тымі самымі бязроднымі Іванамі, манкуртамі ды янычарамі. Гэтак выходзіць, на жаль.

Дзеля таго, каб кніжка пабачыла свет, парупіліся, акрамя аўтараў, Я. Марціновіч і А. Змітровіч (рэдактары), І. Юхневіч (карэктар), А. Лобач (наборшчыца), Н. Санько (макетоўшчыца) і В. Катовіч (мастацкі афарміцель).

**М. М.**

---

ВІНШУЕМ!

# Паядынак з лёсам, або Прыцягальнасць безабароннага слова

Віктар Казько належыць да "ненароджанага пакалення" саракавых гадоў: адны проста на нарадзіліся, хоць, пэўна, значацца ў Кнізе Быцця, другія не выжылі ў вайну, трэція пакінулі гэты свет, не дацягнуўшы да сваіх першых юбілеяў. Сам Казько як бы застыў назаўсёды ў здзіўленні, што ён, застаўшыся сіратой, усё ж абмануў смерць, выгадаваўся сяк-так, самапасам, прайшоў агонь, ваду, медныя трубы і чортавы зубы і нарэшце дабраўся, сам уражаны гэтым, да ўзросту жыццёвай мудрасці і творчай сталасці.

Між тым, падобна, усё ў яго жыцці вяло да таго, каб такога цудоўнага хлопца з мілай дзіцячай усмешкай на твары наогул не было на свеце. І каб выдатнага празаіка Віктара Казько з рэдкай памятлівасцю на падрабязнасці нашай унікальнай эпохі, з феерычнай карнавальнай свядомасцю, з фенаменальнай адчувальнасцю "болевых кропак" сучаснасці і нікому не патрэбнай сёння павышанай сумленнасцю таксама не адбылося. І каб не існавала наогул у беларусаў такіх мастацкіх шэдэўраў, як ягоныя "Высакосны год", "Суд у Слабадзе", "Цвіце на Палессі груша", "Неруш", "Хроніка дзетдомаўскага саду", "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", "Прахожы", "Да сустрэчы..." Калі ж яны ўсё-ткі ёсць, і гэты факт цяжка адмовіць, то хоць бы зрабіць выгляд, быццам іх няма. Што-што, а не заўважаць, не помніць, знарок забываць усё, што нагадвае нам пра наша вышэйшае прызначэнне, што сваім існаваннем абуджае ў нас рэшткі сумлення, — усё гэта мы ўмеем! Улюбёны занятак усіх рэнегатаў і дэгенератаў: няма беларускай мовы. Няма беларускай нацыі. І самой Беларусі няма. І лекаў ад амнезіі не адшукацьмеш у нашых аптэках. "Дык для каго будуеце, панове..." Але гэта я ўжо цытую незабыўнага Максіма Танка, радкі з яго даўняга вершаванага трактата, напісанага яшчэ "за Польшчай" і названага "Калі на свеце няма маёй мовы..."

Не гісторыя і не біяграфія, а менавіта лёс у народна-беларускім вызначэнні гэтай духоўнай катэгорыі цвердзіў свае рашэнні ў творчым жыцці Віктара Казько. Гісторыя яго жыцця, геаграфія яго пошукаў сябе, яго аўтабіяграфія, адлюстраваная з высокай ступенню дакладнасці ў творах празаіка, выразна дэманструюць, як шмат значыў у яго лёсе выпадак. Менавіта выпадак зрабіў Казько пісьменнікам, абвастрыў надзвычай рана яго душэўную ўспрыімлівасць да ўсяго чалавечага ў свеце, абудзіў пакутлівае пачуццё асабістай віны за ўсё, што адбылося і што не адбылося, хоць магло адбыцца, адкрыў у мары крыніцу творчай фантазіі, якая, аднойчы выявіўшыся, ужо не можа быць утаймаванай і абавязкова запатрабуе выхаду ў творчасці. Бліскучы літаратурны дэбют, пазначаны аповесцю "Высакосны год", напісанай па-руску і надрукаванай у "Новом мире", толькі ўскладніў творчы пошук маладога празаіка, ужо заўважанага і высока ацэненага тагачаснай усесаюзнай крытыкай і рускамоўным чытачом.



*В. Казько (у цэнтры) з Б. Спрынчаном, Ул. Паўлавым, А. Вярцінскім і Н. Гілевічам, 1987 г.*



*З Янкам Брылём сярод чытачоў, 1987 г.*

*Фота Ул. КРУКА*

Як узгадвае сам Казько, у дзяцінстве ён, "без пяра, без паперы", ствараў у сваім уяўленні свет, супрацьлеглы таму, які яго акружаў у дзіцячым доме: зло было пакарана, а справядлівасць брала верх, герой сірочых сноўмрояў, дзядзька танкіст, які "прапаў без вестак", прайшоўшы непашкоджаным праз агонь, з'яўляўся перад вачыма яго бабулі "з мяшком хлеба і кансерваў". Казько ўцякае ад самога сябе, бо што можа быць больш бязлітасным, як уласная памяць: пакідае Беларусь і шаснаццаць гадоў вандруе па неабсяжных прасторах Расіі, працуе электратэхнікам у шахце, забойшчыкам, геолагам, нарэшце журналістам, зарабляе на хлеб надзённы. Але не дае спакою "духоўная смага". Мінулае нагадвае пра сябе, урываецца ў сны, вяртае ледзь не гвалтам туды, куды пры святле дня не хочацца вяртацца нават у думках. Гэта ўжо нагадвала па ўсіх прыкметах душэўнае захворванне, якое можна было лячыць толькі словам, цяжкай працай вобразнага асэнсавання перажытага... Ужо надрукавана ў кузбаскіх газетах каля тузіна апавяданняў, набліжаецца да канца вучоба ў Літаратурным інстытуце, напісана аповесць "Добры дзень і бывай", амаль завершана другая аповесць "Цёмны лес — тайга густая", а малады празаік усё яшчэ не ўспрымае сябе ў якасці пісьменніка — раптам адмаўляецца ад абароны дыплома, які даваў яму "пуцёўку" ў спакойнае літаратурнае жыццё, вяртаецца ў Беларусь, працуе ў газеце "Чырвоная змена"...

Як ні намагаўся малады празаік уцячы ад балючай памяці пра вайну, пра паваеннага падлетка, ад "свайго", "беларускага", лёс быў вышэй за яго зразумелую боязь болю ўспамінаў. Уражвае тое, што пакутлівы пошук ішоў паралельна з пошукамі іншых "дзяцей вайны", і творчы вынік быў плённы. Аповесць Міхася Стральцова "Адзін лапаць, адзін чунь", Рыгора Цюцюніка "Акружэнне", раман Юла Тууліка "Ядловец выстаіць і ў сухмень", апавяданні Вячаслава Адамчыка "Раяль з адламаным вечкам", Івана Чыгрынава "За сто кіламетраў на абед", як і аповесць Віктара Казько "Высакосны год", былі ўжо даўно напісаны — уласным жыццём. Прычым аповесць Казько напісана так, што ўявіць яе не на рускай мове, у перакладзе, нават аўтарскім, бадай, немагчыма: яна апальвае сваёй "дастаеўскай" страснасцю, абвостранай эмацыянальнасцю самой рускай мовы, а не толькі ўзноўленымі трагічнымі малюнкамі вайны. "Я існую адначасова ў розных узростах і не ведаю, у якім з іх больш майго "я", — заўважае Дзіма Прыгода, герой аповесці. Герой Казько існуе адначасова і ў розных моўных і культурных стыхіях і не ведае, у якой з іх ён у большай меры з'яўляецца самім сабой. Як паказалі наступныя творы Казько, пачынаючы з аповесці "Суд у Слабадзе", больш яго асабістага "я" было ўсё-ткі ў беларускамоўным асяроддзі, яно было глыбінным, нутраным і натуральным выяўленнем духоўнай сутнасці чалавека і эпохі. Любая самая несумненная ісціна, калі яна выказана не на мове твайго дзяцінства, можа загучаць няшчыра, як самая звычайная хлусня і выдумка.

Колька Лецечка, герой "Суда ў Слабадзе", родны брат па крыві і па духу ўсіх беларускіх дзяцей, на вачах якіх забівалі бацькоў, якіх саміх забівалі і палілі карнікі. Ён існуе на мяжы быцця і небыцця, гармонія яго дзіцячага свету зруйнавана ўспамінамі пра вайну, яго свядомасць разарвана на часткі, і падлетак, штодня ідучы, як на працу, на суд над карнікамі, намагаецца ўзнавіць былую цэласнасць існавання, вярнуцца да сябе самога, сапраўднага, таго, які жыў заўсёды і ніколі не знікне, бо тое, што аднойчы было, ёсць і будзе. Праца яго душы, яго думка працуе ў сістэме беларускай мовы, культуры, гісторыі, бо за туманным для яго словам "маці" ("Нарадзіла яго маці. А што такое маці? Пустата была за гэтым словам для Колькі. Нейкі туман — маці, бацька...") стаяла, прысутнічала, адчувалася не менш туманнае, але і надзвычай рэальнае, слова "Маці-Радзіма", "Беларусь". Каб стаць зусім чалавекам, трэба ўбачыць у сабе найперш беларуса.

Казько адным з першых, у раманах "Неруш" і "Хроніка дзетдомаўскага саду", адчуў глыбінны надлом эпохі, вялікі паварот ад размаху "ўсесаюзных будоўляў", "асваення цалінных і залежных земляў", "асушэння Палесся" да драмы экалагічных праблем. У пагібелі палескай флоры і фауны ён убачыў жахлівыя "языкі" ўсепаглынальнага пажару будучага Апакаліпсіса, у якім знікае і можа знікнуць не толькі Палессе, але і сама Беларусь. І Еўропе, якая страчвае сваё "галоўнае балота", урэшце давядзецца вельмі туга. Дый ужо туга — вучоныя сцвярджаюць, што змянілася ў канцы стагоддзя "ружа вятроў": калі ў нашым дзяцінстве пераважаў заходні вецер, які дзьмуў ад цёплага і мяккага Гальфстрыму, то цяпер часцей вее сухменем вецер з Міжземнамор'я і Сахары.

Размова ў раманах Казько ўжо ідзе не пра цяжкую працу духоўнага самаўдасканальвання, а пра пагрозу этнацыду і генацыду. "Катастрафізм" яго мастацкага мыслення ў той час здаваўся перабольшаным, дачасным, але ўжо чарнобыльская катастрофа ўсё паставіла на сваё месца. Прароцтвы і "клікушаства" Віктара Казько, як і яго калег па пяры, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Івана Пташнікава, Віктара Карамазава, Янкі Сіпакова, Анатоля Кудраўца, Алеся Разанава, Алеся Жука, былі, на жаль, не пачуты ў час "спажывецкім грамадствам". Па вялікім рахунку, не ўсвядомлены іх сэнс і грозная праўда і сёння.

"Паслячарнобыльскія" аповесці Віктара Казько "Но пасаран!", "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", "Прахожы", "Да сустрэчы...", нягледзячы на сваю карнавальную атмасферу ўсенароднага свята (а Раданіца і Дзяды таксама свята), адносяцца да жанру "літаратуры папярэджання", антыутопіі, якая дзіўным чынам нагадвае аб'ектыўную рэальнасць. Аўтару ўсё цяжэй стрымліваць сваю эмацыянальнасць, захоўваць у сабе адчуванне жыццёвых прапорцый (натхненне, як вядома, патрабуе душэўнага супакаення). Мастацкая тканіна яго апошніх твораў узрываецца знутры публіцыстычнымі адступленнямі, якія нярэдка нагадваюць славутае талстоўскае абурэнне "Не магу маўчаць!" Пакуль што душэўны свет Казько ўбірае ў сябе і боль, і гнеў, і надзею, і здольнасць цвяроза ацэньваць падзеі, і ўменне бачыць за вонкавым унутранае, за блізкім далёкае, за нізкім высокае: аўтар, як бывалы шахцёр, то ўздымаецца, то апускаецца ў нетры зямлі, каб на свае вочы пабачыць, што адбываецца, чаго чакаць і чаго баяцца. Яго наіўнае "вечнае дзяцінства" (а без гэтага няма сапраўды вялікага мастака слова), яго ўстарэлае пачуццё спачування ўсяму жывому дазваляе пакуль яшчэ "ўсплываць" на паверхню жыцця, каб глынуць свежага паветра і не расчароўвацца канчаткова ў свеце і людзях. Багадаць яго не пакідае, трэба спадзявацца, і не пакіне, хоць чытачы (а крытыкі — таксама чытачы, адно што за сваё чытанне яшчэ і нейкія грошы атрымліваюць) досыць раўнадушна пазіраюць на рэдкія цяпер кніжкі з беларускімі імёнамі і назвамі.

Для чытача, выхаванага на творах Казько, няма пытання, чаго чакаць ад гэтага выдатнага пісьменніка, публіцыста, мысляра. Жыццё шмат што ставіць на сваё месца, а Віктар Казько ўсё жыццё цягнуўся да таго, што ляжыць у аснове ўсяго, што вышэй нашай штодзённай пагоняй за дабрабытам і што называецца Дабром, Праўдай, Прыгажосцю. У згодзе з гэтымі катэгорыямі ён жыве і ў парыве да высокага знаходзіць сваё адхланне.

**Міхась ТЫЧЫНА**

ПРОЗА

І БАЦЬКА, не забыўшы прыхапіць сваю трэцюю нагу, вывеў Германа з хаты. Герман думаў, што ён спыніцца, прысядзе на прызбе каля хаты ці на лаўцы каля плота. Але той садзіцца нідзе не схацеў, павёў яго па вясковай пустой і сляпой уначы вуліцы, міма могілак, за сяло. Каля лаўкі, дзе звычайна ставілі труну і развітваліся з тымі, хто адыходзіў у нябыт, прыпыніўся, перахрысціўся і тройчы пакланіўся крыжам, што згуртавана замерлі ў цемры. Пакланіўся, мазнуў скурчанай, укарочанай рукой па твары і надзіва спорна і спрытна пакрочыў, пацягнуў свае паўтары нагі далей па цвёрдай, тупкай, хаця і вельмі няроўнай дарозе, з калдобінамі, выбоінамі. Герман здзівіўся, як ён усё бачыць у змроку, ідзе не спатыкаючыся, бы пры сонечным святле?

— Правільна, сынок, правільна, так. Па гэтай дарозе я і з завязанымі вачыма прайду. І не я яе, яна мяне помніць і накіроўвае. Я яе пракладваў, таптаў, і яна трымае мяне, не дае ўпасці.

Стары хапатліва пашнырыў у сябе ў кішэнях, за пазухай і па чарзе выцяг адтуль закарканую газетай бутэльку самагону, дзве цыбулінкі, акраец хлеба і тужліва развёў рукі:

— А вось шклянку, стары пень, не падумаў прыхапіць.

Герман быў здзіўлены бацькавым спрытам: калі толькі ён паспеў сабраць гэта?! Нікуды ні на хвіліну не адлучаўся, не знікаў з яго вачэй, а во, глядзі... Ці не загадзя, прадчуваючы гэты прыход сюды, усё падрыхтаваў яшчэ ў хаце, меў пад рукой?

— Шклянка мужыку не праблема, — між тым усцешана працягваў бацька. — Здолелі б і з гарла. Але мы з табой, як ты кажаш, не гэтыя самыя, што з бугра...

Ён адышоўся на хвілінку, прачыкільгаў углыб лугу, угнуўся, распраміўся і вярнуўся з дзвюма берасцянкамі. Наліў да палавіны ў адну, роўна столькі ж — у другую. Прасачыў, як асцярожна і абачліва бярэ сваю Герман, супакоіў: сюды, у ваду, у балота. І ты думаеш, яны б прыпынілі, прывязалі мяне тут, маладога, шалёнага? Ды я б любога бобіка абдурыў, вакол пальца, як раз плюнуць, абвёў. Толькі б яны мяне й бачылі — лавіце вецер у полі. У зайца дарог шмат. Гэта ў таго, хто гоніцца за ім, — адна... Толькі каля гэтага куста лазы, сярод мора вады закончылася мая дарога. Трохі сумленне, трохі здзіўленне, а мо што і іншае яшчэ — абязножылі, не пусцілі бегчы далей, ратаваць толькі сябе...

Прыбіўся да гэтага лазовага куста, да купіны, як той дзед Мазай у такую ж паводку. Толькі ён у лодцы зайцоў ратаваў. А тут я сам заяц, і ніхто мне лодкі не падае. А пядзю цвердзі зямной Бог пад ногі ўсё ж кінуў. Толькі і яна занятая ўжо аказалася. Табой занятая і тваёй маткаю. Маці была ўжо мёртвая, а ты — жывы яшчэ. Я думаю, яна толькі-толькі ад цябе апрасталася, без енку, крыку, стогнаў, праклёну і плачу, з чым прыходзіць на гэту зямлю чалавек. Усё загнала ў сярэдзіну сабе, таму мо і скапрыхавана тайна і праўда яго нараджэння, ён, як і раней, лічыў Гаўрылу за свайго бацьку. Фізічна адчуваў па хуткім і гарачым цёку крыві ў сваім целе, па роўным, хаця крыху і прыспешаным стуку сэрца набліжэнне раскрыцця той тайны і праўды. І было яшчэ адчуванне, што так мерна б'ецца не толькі адно яго сэрца. Іх вялікае мноства, сэрцаў, што раптам ажылі сярод гэтай начы. Сэрца зямлі, што прыліўна і спакойна дыхае зараз. Такое ж прыліўна-адліўнае дыханне месяца і нават скошанай, мёртвае ўжо травы, што, патрэскваючы, сохла пад покрывам ночы. Усё, усё навокал спяшалася, прагла яму нешта давесці, перадаць, сказаць. І толькі чалавек, яго бацька, супраціўляўся гэтаму. Хаця першым абзацам сказаць усё да донейка. А мо менавіта ў гэтым і ёсць, хаваецца самая вялікая праўда? Усе ж бацькі, адыходзячы на той свет, чагосьці недагаворваюць сваім дзецям. Самага галоўнага недагаворваюць, дзеля чаго жывуць, бо не хапае ўжо часу вымавіць гэта галоўнае, выцерабіцца з будзённай заклапочанасці і мітусні. Мо гэта, гэтая недагаворанасць і трымае да пары да часу іх на зямлі, доўжыць і працягвае жыццё. А як толькі надумаецца сказаць усё да апошняга — чалавека ўжо няма, ён знік, пайшоў. Няма роднага чалавека, яго вуснамі, яго словамі распараджаецца ўжо нехта чужы, незнаёмы, а часам і брыдкі. Вось так і бацька зараз, здаецца, скажа ўсё, выгаварыцца і скане. Але, не зважаючы на кошт праўды, ён прагнуў усё ж дабіцца яе. І, калі гэта магчыма, быў згодны пачуць праўду і памерці сам, у горшым выпадку — памерці разам з бацькам. Праўда была куды даражэй яму за ўласнае жыццё.

— Ты нечага баішся, бацька?

— Баюся, сын. Баюся самога сябе.

— Такая страшная праўда?

— Так, нездарма ж нехта з нашых людзей сказаў, што за праўду мала стаяць, за яе і пасядзець трэба. Хаця праўда сама па сабе не страшная, як і смерць. Страшная праўда аб сабе.

— Яна нікуды не пойдзе далей гэтай ночы і мяне.

— І ты думаеш, гэтага мала? Не прывядзі Гасподзь тваійму сыну ведаць пра цябе ўсю праўду.

— Я твой сын і хачу ведаць і чуць.

— Але яе проста так не пачуеш. Яе яшчэ і адчуваць, разумець трэба. Гэта толькі хлусня любіць біць сябе ў грудзі. А праўда ціхая, сціплая, як і шмат хто з людзей вакол нас, у нашым сяле. Яна больш схільная маўчаць і тым аказваць сябе.

— І гэта ўсё, што ты мне мусіш сказаць, што хочаш перадаць мне?

— Амаль што ўсё, — сказаў бацька. — Усё, што ты здольны панесці. А астатняе — на мае плечы.

— Не шкадуй жа і маіх плячэй.

— Ці па сіле ношку ўскідваеш на свае плечы, сынок? Цябе прыдушыць, ува-б'е ў зямлю, загоніць у магілу і твая праўда. А бацькоўская... Дазволь мне з ёй адысці, не замінаць табе ў дарозе. А то ж не супакоюся і ў магіле, буду і з таго свету прыходзіць і бянтэжыць цябе. Следам за мной і іншыя ўнадзяцца збіваць маладых з тропу.

— Не хвалюйся, бацька. Мы не з баязліўцаў. Мы тут і маладыя даўно ўжо пужаныя і дзёўбаныя.

— Добра, сынок, добра. Лічы, я з табой з таго ўжо свету, з магілы гавару. Хопіць духу не заткнуць вушы, не збаяцца майго ценю, якога я і сам часам баюся?

— Гэта таму, што ты ўсё жыццё прагаварыў шэптам. І толькі сам сабе. Давай зараз услых.

— Услых дык услых, — уздыхнуў бацька. — Налі цяпер ты. Там яшчэ засталося, дарэшты яшчэ мая бутэлька не выпітая. І просіць душа, хоць кропельку на язык просіць...

Герман разліў гарэлку па берасцянках, але не ўсю, пакінуў трошкі, вось на такі выпадак, калі зноў самкнуцца вусны і зробіцца цяжкім язык. Яны зноў узнялі ўгару берасцянкі і выпілі. Але цяпер ні той, ні другі заядаць не сталі.

— Горкая, горкая, але і салодкая, — выціскаючы з сябе самагонны дух, сказаў бацька. І іх дыханне, і пах гарэлкі, што яшчэ не страціла водару крыху прэлага жыта, з якога была выгнана, гаркоту дымка цяпельца, на якім гатавалася брага, і водар самой брагі змяшаліся з дыханнем ночы, самлелай у ёй супакоенай травою, якая яшчэ чакала, прагла супакаення, змяшаліся з хмельным святлом месяца і зорак у сваёй нябеснай калысцы пад зрэджаным ахоўным покрывам туману, што спускаўся зверху, з аблок, і прыпадаў ужо да зямлі.

Віктар КАЗЬКО

# ТРЫ ДНІ НА ВЫСПЕ

## СТАРОНКІ З РАМАНА



*Гэта тое, пра што я павінен быў напісаць. Бо сёння я таксама прах. І таксама бунтоўны. Гэта ўжо закладзена ў нашай прыродзе. У вечным адмаўленні таго, што ёсць, і спадзяванні на тое, што будзе. Гэтым толькі і ратуемся.*

*Раман "Бунт незапатрабаванага праху" будзе надрукаваны ў часопісе "Полымя".*

**АЎТАР**

Яны скіравалі ў бок сенажацяў. І пасярод бацькоўскага лужка, цалкам яшчэ не скошанага, спыніліся, добра абрэшаныя перастаялай травой, да таго зблытанай, што яна вязала ногі — як дакарала чалавека. Бацька падвёў яго да невялічкага кусціка лазы, а больш праўдзівей — да лазовых парасткаў гэтага года. Пакуль Герман здзіўлена маўчаў, не разумеючы, чаму менавіта сюды трапілі яны амаль што апоўначы, бацька кінуўся прымінаць гэтыя лазовыя парасткі, а адначасова збіваць і начную расу на купінах. Раса была шчодрая, і яе хапіла бацьку не толькі на тое, каб вымачыць рукавы сарочкі да плячэй, але і ўмыць, асвяжыць твар жывой нябеснай вадой, кроплі якой зіхацелі ў святле месяца, прыгладзіць сівыя валасы. І яны, як і трава на купінах, таксама, зазіхацелі серабром. А бацька ўсё збіваў і прымінаў купіны.

— Навошта ты гэта робіш? — не вытрываў Герман.

— А каб табе было сухенька і не холадна знізу сядзець тут... зараз.

— Чаму іменна зараз — сухенька і не холадна?

— А таму... Таму, сынок, што вось тут, на гэтай купіне, пад гэтым лазовым кустом ты і з'явіўся на свет. І было табе тады тут вельмі сыра і холадна. Паводка была якраз вясенняя, і ўсё тут плавала ў вадзе. Толькі вось гэта пядзя зямлі, купіна, як магілка, наверсе. Таму я гэты куст ніколі да канца не зводжу, не карчую, хаця мог бы і трэба было б. Так, зводзьшага абсякаю, каб перад суседзямі было не сорамна: маўляў, нядбайны да свайго сенакосу. Пільную, каб куст амаладжваўся, але не зводзіўся зусім. Сухім летам часам не палянуюся і паліць, даць лазе спатоліць смагу, крадком, каб дурное вока не бачыла, прынесці сюды вядро вады. Расце. Лаза пры вадзе...

— Дык тут мяне баба Валя і нарадзіла? — перапыніў бацьку Герман, ужо адчуваючы, што не баба Валя яго тут нарадзіла, таму мімаволі і завучы яе цяпер гэтак.

— Не, не баба Валя. Не мая старая цябе нарадзіла, — пацвердзіў яго здагадку Гаўрыла. — І я табе зусім не бацька, хаця...

— Дык хто ж нарадзіў мяне? Не гэты ж лазовы куст, не купіна.

— А можна сказаць, і купіна, і лазовы куст. Гэта ж ён павінен быў вырасці акурат тут. Каранямі ўспушыць, нагрэбсці, прыўзняць зямлю, утварыць купіну, бугор, каб на ім бугры...

— Цяпер я разумею, чаму кажуць — хрэн з бугра. Гэта пра мяне.

— Гавораць і інакш, — здаецца, трохі пакрыўдзіўся бацька, — і ты яшчэ не дарос да таго, каб пра цябе так гаварылі. Так пра віднага, выбітнога чалавека гавораць, а ты яшчэ непрыкметны, малы і слабы, як гэтая лаза. І прывёў я цябе сюды, каб ты ўспомніў і памянуў сваю маці. І ў мяне, і ў бабу Валю не кінуў каменя...

— Не бойся. Не пральецца. Недарэмна кажуць: лапці ваду не прапускаюць... Ну, будзем здаровы, сын. За вялікамучаніцу Марыю, што нарадзіла цябе...

— Хто ж яна і адкуль? — падносячы ўжо да вуснаў берасцянку з самагонам, прыпыніўся Герман.

— Пра гэта гаворка наперадзе. Пі, закусвай і слухай. Не выпіўшы, я аб гэтым успамінаць і расказваць няздольны... Пі да дна, чалавек з бугра і на бугры... Мог бы наліць і тваёй маці, толькі яе тут нямашака.

— Куды ж яна падзелася?

— Пі, дый пачнём. Хаця мо трэба было б і наадварот. Даруй мне, Божа, грэшнаму...

Бацька перахрысціў берасцянку і залпам асушыў яе. Герман крыжа не паклаў. Не мог, не ведаў, як гэта робіцца, хаця яму і карцела выпіць па-бацькоўску. Заелі едкі самагон кожны сваёй цыбулінай, таксама вельмі пякучай і злоснай, зажавалі хлебам, разламаўшы акраец напалам.

— Пачынаю, — сказаў бацька. — Хаця і галавы не прыкладу, з якога канца гэта рабіць, ды ўжо як набяжыць...

Ён пільна ўгледзеўся ўдалячынь, у сенажаць, дзе праз цераспалосіцу ўжо скошанай і яшчэ на карані травы, пасялянску ссунуўшы набакір шапкі з ускудлачанымі вушамі лазовых насточжаў, стаялі складзеныя стагі і не дарослыя яшчэ да стагавання копы і копкі, валкі ўжо зграбленага сена, што сохла, насычалася нейкім патаемным духам пры медзяным святле месяца. Піло гэтае святло і выпраменьвала само яго, дурманіла галаву перастояным траве і лугавым краскам, што злёгку зайздросцілі яму, хаця ведалі і здагадваліся, што праз дзень-другі іх спасцігне такі ж лёс. А пакінутыя на карані сеяная, рослая цімафееўка і невысоканькая лугавая канюшына-самасейка гэтай месячнай ноччу, здаецца, прасілі касы, росна плакалі, таму што адначасова і праглі касы, і да стогну баяліся яе. Але яшчэ больш, напэўна, баяліся застацца непрыбранымі і няскошанымі, некранутаператварыцца ў пыл, сатлець і адысці на той свет нябачным прахам. Куды больш вабіла іх доля (так здавалася, зрэшты, Герману) быць далучанымі да сваіх падвышаных над зямлёй, сабраных у стагі і копы суродзічаў. Гэтыя стагі і копы былі падобны на нешта жывое, што рухалася, перашэптвалася, калі набягаў вецер, нагадвалі чалавека, які выбраўся ў дарогу, ды нерашуча і задуменна прыпыніўся на ростані.

— Дай, Божа, першае слова, — угледаючыся ў цераспалосіцу прыбраных і нечапаных сенажацяў, сказаў бацька. — А першае маё казанне: я быў тады малады, здаровы і дурны, хаця вайна ішла. Прыбег да сваёй бабы Валі, тады яшчэ дзеўкі, праведаць. А тут — засада, аблава. Застукалі яны мяне, абклалі, як звера, з усіх бакоў, і пачалі цкаваць. Загналі вось нала хутка. Рот яе быў забіты зямлёй і травой, пры памяці яшчэ забіты, каб не прарвалася нічога вонкі, каб даганяльшчыкі не пачулі. Я траву, леташнюю яшчэ, сухую, колкую, з яе рота выцягнуў, зямлю пальцам выкалупаў, не ўсю, зразумела, збольшага... А рот увесь разадраны, крывавіць. Думаў усё голас пачуць, але голасу ў яе ўжо не было. У зямлю і неба пайшоў голас.

А ты жывы... Ты поўзаеш па яе безгалосым целе, перасмыкаешся толькі, што чарвячок пасля дажджу. Але вось што дзіўна — маўчыш. Пупавіна яшчэ да маці прыпнута. На маё, пазней ужо, разуменне, праз тэту пупавіну яна ўвесь час і перасцерагала цябе, умольвала, каб ты маўчаў. Але, з другога боку, чалавек без болю, без крыку на белы свет не прыходзіць. Ён абвясціць сябе зямлі павінен — інакш не жылец. А ты голасу не маеш, а жывы... Нож я згубіў, пакуль зайцам скакаў па карчах і вадзе. Давялося зубамі перагрызаць пупавіну. Усё нізк не наважваўся на вузел яе завязаць. Ведаў, што гэта край трэба, а як вязаць жывое... У цябе і зараз пупок касенькі і выпнуты паверх жывата. Правільна я кажу?

— Правільна, — пацвердзіў Герман, — крывенькі і лупаты.

— Даруй, — сказаў Гаўрыла, — як ужо здолеў, так і аддзяліў, разлучыў цябе з маці. Узяў за ножкі, — падглядваў у свой час, як бабулі-павітухі гэта рабілі, — страсянуў у паветры. Заспяпіўся нават — крыку, думаў, будзе, а ты толькі войкнуў, ікнуў і пачаў дыхаць роўненька. Ікнуў, і вочкамі мутнымі-мутнымі, як з таго ўжо свету ці цёмнага чэрава маці, з-пад лоба павёў на мяне. Але хутка вочы праясніліся, ты заплюшчыў іх і, здаецца, заснуў, як жывы, хораша, спакойна заснуў. А... далей ужо мне няма чаго табе расказваць...

— Не веру, бацька, — сказаў Герман. І ён сапраўды не паверыў яму. Таму што бацька нічога не праясніў, не растлумачыў. Тое, што ён расказаў, усё роўна адбылося па-за яго памяццю і таму як бы не з ім. Да ўсяго ж, гэта было толькі яго ўступленне ў жыццё. Жудаснае, жахлівае і зусім непраўдападобнае. Усё астатняе і найбольш існае, мо такое ж, мо больш страшнае, павінна было адбыцца пазней. Але ён праг спазнаць, дамагчыся поўнай праўды пра сябе, якой бы яна ні была, сёння і назаўсёды развітацца з таямніцай свайго з'яўлення на белы свет. Раз адпакутаваць — і ўсё. Нават у пекла ж двойчы не заганяюць. Толькі аднойчы трапіўшы туды, гарыць у ім вечна. І ён па сваёй ахвоце адмаўляўся ад выратавальнага, шчаслівага няведання. Ён асуджаў сябе сам на вечны агонь і кіпень смалы, толькі б душа пазбавілася, ачысцілася ад нагару, які параджаны недамоўленасцю, недагаворанасцю, шматзначным крываdушшам намёку, які дратуе сэрца. І ў гэтай начы, у якой Герман цяпер знаходзіўся, разам са старым на гэтай купіне, у якой была

(Працяг на стар. 14—15)

## Верны роднай зямлі

Шлях да мастацтва Кастуся Качана быў няпросты. Ад дыплома фізіка, ад першых няўпэўненых крокаў праз непрыманне калегаў-мастакоў ён спраўдзіў мару стаць сапраўды адметным творцам. У гэтым яму дапамаглі вялікая працаздольнасць, нават пэўны фанатызм. За апошнія два



дзесяцігоддзі, як Кастусь пачаў маляваць, ён удзельнічаў у шматлікіх выставах, выдаў каталог, яго работы закуплены многімі музеямі. І пры гэтым ён не змяніў свайго стылю, застаўся закаханым у хараство роднай зямлі.

Філасофія жыцця і чалавечага існавання спалучаецца ў К. Качана з душэўнай шчырасцю, канкрэтыка гармануе з умоўнасцю, дакладнасць з сімвалічнасцю. Мастак не "прамоўца" ў сваіх карцінах, ён паказвае гледачам сціплую, някідкую, вясковую Беларусь.

К. Качан прыйшоў у мастацтва са шчырай лірыкай і застаўся ёй прыхільны. Пра гэта сведчыла яго юбілейная выстава да



пяцідзесяцігоддзя мастака, што адбылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. Жывучы сёння ў Мінску, а не ў родным Лаўрышаве, адкуль пачалася некалі слава вялікага Войшалка, К. Качан верны куточку зямлі, які некалі натхніў яго на творчасць.

**Н. Ш.**

*На здымках: мастак К. КАЧАН; "Праўінцыя".*

*Фота М. ПРУПАСА*

## Неправінцыйныя сустрэчы

Ігар Пракаповіч жыве і працуе ў Паставах. Гэта чалавек незвычайных здольнасцяў: піша вершы (аўтар трох паэтычных зборнікаў, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў), пад гітару спявае песні на свае словы (дванаццаць песень запісана на Беларускім радыё), арганізоўвае і праводзіць цікавыя літаратурныя мерапрыемствы. Апошнія з якіх — "Даўжанскія вечары", прысвечаныя земляку Уладзіміру Дубоўку, і леташні семінар маладых літаратараў Прыдзвіння — набылі шырокі рэзананс у рэспубліцы.

А яшчэ Ігар — член вучонага савета Беларускага геаграфічнага таварыства, ён заканчвае працу над дысертацыяй (за плячыма і аспірантура) па краязнаўстве. Дарэчы, колькі год таму выкладчык геаграфіі адной з пастаўскіх школ Ігар Пракаповіч па выніках абласнога конкурсу майстроў-педагогаў прызнаваўся лепшым настаўнікам Віцебшчыны.

Дачуўшыся пра такога таленавітага чалавека, кіраўнікі клуба аматараў кнігі пры Глыбоцкай раённай бібліятэцы "Час і мы" Тамара Бяльковіч і Жанна Юркевіч проста не маглі не запрасіць Ігара Пракаповіча на адно з чарговых — красавіцкае — пасяджэнняў.

Сустрэча доўжылася больш трох гадзін, Ігар чытаў вершы, гумарыстычную і сур'ёзную прозу, адказваў на пытанні. А калі стамляўся, слова бралі глыбоцкія літаратары Тамаш Ляшонак, Уладзімір Савуліч, Галіна Сутула, Святлана Новік, Станіслаў Лось.

Між іншым, Глыбоччына не пакрыўджана няўвагай беларускіх пісьменнікаў: за апошнія два-тры гады ў нас пабывалі Генрых Далідовіч, Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, Франц Сіўко, Герман Кірылаў, Лявон Неўдах.

І наперадзе, вядома ж, новыя сустрэчы.

**Алесь ЖЫГУНОЎ**

МУЗЫКА

# Ён выбраў спевы...

***Яго голас добра ведаюць прыхільнікі опернага мастацтва. Яму апладзіравалі ў Іспаніі і Швейцарыі, Германіі, Злучаных Штатах і Турцыі. Сяргей Франкоўскі — адзін з самых адметных спевакоў у трупе Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы. Яго прыгожы голас, лірыка-драматычны тэнар, якому ўласцівы элементы італьянскага бельканта, абуджае ў слухачоў пачуцці ўзнёсласці і захаплення. Апісаць словамі яго даволі складана. Гэты голас трэба слухаць.***

Спявак вельмі дакладна ўсведамляе сябе ў абранай прафесіі. Спевы для яго — гэта жыццё. А выбар быў зроблены ў юнацтве, калі Сяргей жыў у Магілёве. Тады лёс падараваў яму шчаслівую сустрэчу з Людмілай Браілоўскай, кіраўніком вакальнай студыі. Боская ласкаю педагог і інтэлігент, яна выхоўвала ў сваіх вучнях самаадданасць і высокае стаўленне да прафесіі.

Сяргей прыйшоў у клас Л. Браілоўскай без музычнай адукацыі. Тут ён атрымаў неабходныя веды і навыкі ў вакале. Людміла Яўгенаўна падрыхтавала яго да паступлення ў кансерваторыю. Цяпер успамінае: "Я прыняла яго ў свой клас і адразу зразумела, што ён вельмі таленавіты. Мяне ўразіў яго цудоўны голас, эмацыянальнасць, артыстызм. Сяргей вельмі ўспрымальны, тонка адчувае стыль музычнага твора. Ужо тады я ведала, што ён будзе оперным спеваком". Так, яе колішні таленавіты вучань ужо мае статус майстра сцэны. Іх сяброўскія адносіны працягваюцца.

У Беларускай акадэміі музыкі С. Франкоўскі займаўся ў класе прафесара Л. Івашкова. Ужо на І курсе ён стаў лаўрэатам Нацыянальнага конкурсу імя Л. Александроўскай. Да маладога спевака прыйшло творчае прызнанне. Адразу пасля конкурсу ён атрымаў запрашэнне выступаць як саліст з Акадэмічным народным аркестрам Беларусі імя І. Жыновіча. Успамінае мастацкі кіраўнік аркестра Міхал Казінец: "Акадэмія музыкі ганарыцца такімі выпускнікамі, як Сяргей Франкоўскі. У яго адметны голас са сваёй непаўторнай прыгажосцю, шырокім дыяпазонам. Разам з аркестрам ён быў на гастролях у Германіі і Турцыі. У Злучаных Штатах Амерыкі Сяргей паспяхова выступіў з сольнымі канцэртамі. Там ён праводзіў творчыя ўрокі і вельмі падабаўся студэнтам. Як старэйшы калега я парадаваўся, калі яго запрасілі ў тэатр, дзе ён паспяхова цяпер працуе".

●

Яго творчае станаўленне як опернага спевака пачалося ў гады студэнцтва. У 1992 г. у опернай студыі рыхтавалася да пастаноўкі опера Д. Пучыні "Багема". Рэжысёр спектакля Сямён Штэйн на партыю Рудольфа запрасіў студэнта II курса Франкоўскага. З павагай і ўдзячнасцю ўспамінае Сяргей гэтага таленавітага рэжысёра і неардынарнага



га чалавека, сапраўднага майстра опернай рэжысуры і лічыць яго адным з першых сваіх настаўнікаў у сцэнічным майстэрстве.

Дэбют прайшоў паспяхова. Вакальная і сцэнічная трактоўка партыі Рудольфа была адзначана як творчая ўдача маладога спевака.

ЭСТРАДА

# Дуэт...

Даўно ўжо я не атрымлівала такога задавальнення ад эстраднага шоу. На "сольніку" Нэлі Багуслаўскай ды Ізмаіла Капланава не было ні шараговых песень, ні надакучлівых вядучых, ні агіднага гуку, тыповага для імпрэзаў у канцэртнай зале "Мінск". "Салодкая парачка", як ахрысціў іх міністр культуры А. Сасноўскі, уручаючы пасля канцэрта кветкі, прадэманстравала выдатную школу эстраднага мастацтва — школу, атрыманую яшчэ ў 60-я гады. Ветэраны беларускай эстрады даказалі найвысокі ўзровень сваёй прафесійнай падрыхтоўкі. Яны ў бліскучай форме — не ў прыклад некаторым маладым спевакам, якія хутка "раскручваюцца" і гэтак жа хутка знікаюць, не пакідаючы пра сябе і знаку.

Нэлі Багуслаўская ды Ізмаіл Капланаў аказаліся сапраўднымі "марафонцамі" на беларускім эстрадным Алімпе. І гэта пры тым, што ў іх творчым жыцці быў вялікі перапынак: у сярэдзіне 80-х цяжкая хвароба надоўга выбіла Н. Багуслаўскую з каляіны, а І. Капланаў прыкладна з таго часу аж да 1996 г. займаўся пераважна адміністрацыйнай працай, якую, дарэчы, не пакідае і сёння. (Арганізацыйны бок усіх канцэртаў, якія ладкуе ў сталіцы Магілёўская абласная філармонія, — на яго плячах. Збояў не бывае!).

Вярнуў іх у творчасць фестываль "Залаты шлягер".

Хаця, не. Спачатку была радыёперадача "Я, ты, ён і тэлефон". У 1995 г. музычны рэдактар Т. Песнякевіч, назбіраўшы ў фанатэцы нешматлікія запісы Н. Багуслаўскай, запрасіла яе ў "жывы" эфір. Ні аўтар праграмы, ні яе гераіня і ўявіць не маглі, які будзе розгалас! Спявачка ледзь паспявала адказваць на тэлефанаванні. Было відавочна: яе памятаюць і чакаюць вяртання на сцэну. Ну, а потым адбылося паспяховае выступленне Н. Багуслаўскай на першым "Залатым шлягеры" — тады яшчэ са старымі песнямі. Праз год далучыўся муж, І. Капланаў, які, па-першае, стварыў для яе шэраг новых песень, а, па-другое, — дэбютаваў у якасці спевака. Працуючы калісьці клавішнікам у групах І. Палянскай, В. Вуячыча, В. Кучынскага і іншых вядомых салістаў, І. Капланаў і ўявіць не мог, што давядзецца спяваць. Тым больш, што і Н. Багуслаўская катэгарычна загадала: "Пры мне — не!" Хаця Я. Еўдакімаў, наадварот, напаўжартам сказаў: "Не будзеш падпяваць — звольню!"

Так што толькі апошнім часам — калі яму ўжо было пад 60! — І. Капланаў пачаў выконваць уласныя песні, і паспяхова. Многія з іх ён спявае і цяпер, на сумесным з Н. Багуслаўскай канцэрце пад назвао "Калі ласка, будзьце побач", да якога ішоў, паводле ўласнага прызнання, цэлых 50 гадоў! Менавіта столькі часу мінула з тае пары, калі ён, зусім маленькі хлопчык, упершыню прыладзіў на плячах падараваны бацькам акардэон.

Перапоўненая зала вельмі прыхільна прымала сольныя нумары ў выкананні І. Капланава. І хаця ў вакальным жанры ён — амаль дэбютант, здавалася, што эстраднымі спе-

ТЭАТР

# Узыходжанне над будзённасцю

У нашым шчыльна заселеным свеце чалавек нярэдка адчувае сябе самотным, гэтае пачуццё асабліва абвастраецца з узростам. Бездапаможнасць і безнадзейнасць асуджаюць чалавека на заўчасную духоўную смерць. Блізкасць і роднасць з тымі, хто знаходзіцца побач, дасягаецца праз кампраміс, падпарадкаванасць, згодніцтва, што, у сваю чаргу, прыводзіць да зняволення душы. Але менавіта на гэтых прынцыпах вымушаны суіснаваць чатыры старыя жанчыны, гераіні спектакля "Выходзілі бабкі замуж" па п'есе Ф. Булякова, пастаўленым на малой сцэне Брэсцкага тэатра драмы і музыкі рэжысёрам Валянцінай Янавец.

Састарэлых сялянак, былых ударніц, пасялілі ў калгасны прытулак, дзе ім як быццам стварылі спрыяльныя ўмовы для жыцця, але няма ім тут спакою і шчасця. Занядбанасць, пакінутасць, разрыў са светам пануюць у прытулку. Смутак і адзінота лягчэй пераадольваюцца з адвечнай жаночай працай. Хата, печ, высокі ганак — сімвалы стабільнасці і ўпэўненасці ў жыцці. Гэта падмурак дзейснага сялянскага жыцця.

Жанчыны з замілаваннем згадваюць сваю маладосць, няхай і не вельмі шчаслівую, але там яны былі гаспадынямі, жонкамі, перадавымі калгасніцамі, а цяпер яны толькі ўтрыманкі.

Сумеснае жыццё ў прытулку абвастрае праблемы, яскрава высвечвае характары жанчын. А яны такія розныя! Напрыклад, Васёна ў выкананні актрысы Дзіны Дойбан па-маладому гарэзлівая, не зведаўшая сямейнага жыцця, але каб надаць сабе больша аўтарытэту, выдумляе розныя любоўныя прыгоды і лечыць душу чаркаю віна.

Паліна (артыстка Тамара Валчэцкая) ціхая, чуллівая, здатная падтрымаць бяседу, песню падспяваць і чарку ўзяць. Ёй так не хапае турбот па гаспадарцы, што яна часам блытае мінулае з цяперашнім, і тады яе ўчынкі нагадваюць засяроджанае ціхае вар'яцтва.

Іваніха (артыстка Тамара Багрэева), у адрозненне ад Паліны, мае моцную галаву і свядомасць, атручаную духам барацьбы з іншадумцамі, употай яна вядзе дзённік, куды запісвае ўсе "грахі" сваіх суседак па прытулку.

Аўдоцця (артыстка Тамара Маісеенка) — самая старэйшая сярод жанчын. Яна страціла апошнюю надзею на нешта добрае, а таму не жадае мець ніякіх стасункаў з гэтым светам, яна маўкліва ляжыць на ложку, быццам застыла ў чаканні смерці.

Жанчыны кпяць адна з адной, жартам згадваючы адзінага ў ваколіцы жаніха татарына Абдулу, які ім падыходзіць па ўзросце і жыве на ўласнай хаце. Асабліва іх забаўляе і смяшыць тое, што гэты чалавек іншае веры.

Але здараецца непрадбачанае. Старшыня калгаса прыводзіць на начлег у прытулак да жанчын таго самага Абдулу.

І насельніцы прытулку дзіўным чынам мяняюцца: хітруюць, какетнічаюць, стараюцца



спадабацца Абдуле, нават спаборнічаюць паміж сабою. І цяпер ужо не мае ніякага значэння нацыянальнасць і веравызнанне Абдулы, бо жанчыны ўбачылі перад сабою, гаспадара, майстра, годнага чалавека.

Артыст Віктар Міхайлаў стварае вобраз Абдулы з душэўнай цеплыні, светлай іроніі, тонкага разумення душы персанажа, якая здатная спагадаць чужому болю і адорваць лагодай.

# Канцыянал паводле Барадуліна

Талент парадаваў свежай кветкай. Яна далікатная — і жыццястойкая, бо мае магутныя карані, праз якія сілкуецца старадаўняй, дабіблейскай мудрасцю, духам хрысціянскім, пакутным досведам і аптымізмам народным. "Псальмы" (вершы Рыгора Барадуліна, музыка, спевы пад гітару Алеся Камоцкага) — кветка прыкметная ў садзе беларускай культуры. І, дзякуй Богу, — не экзатычная, бо мае тут далёкіх суродзічаў.

Так, радавод сучасных "Псальмаў" (нядаўна выдадзеных на аўдыёкасеце пры падтрымцы Цэнтра грамадзянскай адукацыі "Польшча — Беларусь" і Беларускага Аб'яднання Студэнтаў) глыбока ўкаранёны ў гісторыю чалавецтва і нашых суайчыннікаў. Адразу і не распавесці. Тут і старажытнагабрэйскія рэлігійныя песняспевы, якія праз Псалтыр перайшлі ў хрысціянскае набажэнства. Тут і побытавыя духоўныя песні, распаўсюджаныя на беларускіх землях з сярэдзіны 17 ст. І прадстаўленыя ў айчынных зборніках-канцыяналах псальмы Давіда. Тут і заходнееўрапейскія ўзоры псальмавых кампазіцый розных часоў: І. С. Бах, Г. Ф. Гендэль, Ф. Шуберт, Ф. Ліст, А. Шонберг. Тут і "Псалтыр рыфматворная" В. Цітова на тэксты С. Полацкага. Калектыўныя ды індывідуальныя малітвы, пакаянныя гімны, песні гістарычнага зместу...

Слухаючы "Псальмы" Р. Барадуліна — А. Камоцкага, пераконваешся ў арганічнай спакроўленасці новага твора з прыродай старажытнага жанру. Але якое б істотнае значэнне ні мела чысціня жанравай прыроды, душа ўрэшце рэагуе на тое, пра што гавораць стваральнікі песень-малітваў, песень-споведзяў, песень-разваг.

"Бачыць далей маладое вока — вока старое глядзіць глыбей..." Здаецца, гэтым радком аднаго з псальмаў можна было б вызначыць плён незвычайнага сааўтарства. Можна... Ды не варта. Бо відушчы позірк творцы, які "зазірае Богу ў вочы і душою крочыць па ягоных сцяжынах", не падлягае ўзроставым вызначэнням. Позірк мастака — прадбачлівы і абачлівы, па-дзіцячаму адкрыты і па-філасофску назіральны. Афарыстычныя, дасціпныя, трапныя, надзіва меладыйна-пластычныя радкі Р. Барадуліна атуляе шчырая і немудрагелістая "бардаўская" аздоба. Імкнучыся далікатна і даходліва "прачытаць" самадастатковы паэтычны тэкст, А. Камоцкі спалучае ў сваіх мелодыях інтанацыі хрысціянскіх гімнаў і гарадскога раманса, падкрэслівае жанравую адметнасць кожнага з амаль двух дзесяткаў псальмаў, разнастаіць фактуру акампанементу... (І яшчэ дэталь: у афармленні касеты скарыстана работа мастачкі Ілоны Барадулінай "Анёл".)

Што тут казаць: "Псальмы", гэтую своеадметную нізку песень, лепей паслухаць. І не адзін раз.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Прэміі — Гомельскім пісьменнікам

Названы лаўрэаты літаратурных прэмій Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Яны ўстаноўлены летась з мэтай ушанавання памяці пісьменнікаў-землякоў і для заахвочвання лепшых літаратараў. Першымі лаўрэатамі былі Соф'я Шах, Міхась Даніленка, Уладзімір Верамейчык і Віктар Ярац. А сёлета лаўрэатамі сталі: у галіне паэзіі Таіса Мельчанка — за кнігі "Добры знак", "Бярэсце памяці" і кнігу перакладаў "Сябрына" (прэмія імя Анатоля Грачанікава); Анатоль Бароўскі — за кнігі "Цеплыня" і "Белы бусел — чорны цень" (прэмія імя Аляксандра Капусціна); Мікола Янчанка — за творы для дзяцей апошняга часу (прэмія імя Івана Сяркова); Васіль Ткачоў — за прапаганду творчасці пісьменнікаў-землякоў на старонках абласнога і рэспубліканскага друку, на радыё і тэлебачанні (прэмія імя Мітрафана Доўнар-Запольскага).

Лаўрэатам будуць уручаны дыпломы і грашовыя прэміі.

Хочацца сказаць шчыры "дзякуй" тым арганізацыям і ўстановам, што дапамаглі сродкамі. Гэта — навукова-вытворчае аб'яднанне "Машынабудаўнік" (дырэктар — М. Афанасьеў), Жлобінскі гарвыканкам (старшыня — У. Ерафееў), абласное тэлерадыёаб'яднанне Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Беларусь" (старшыня — В. Маючы), Рэчыцкі гарвыканкам (старшыня — М. Заразака).

У канцы красавіка ў г. Гомелі пройдзе творчы вечар лаўрэатаў абласных літаратурных прэмій.

**Ігар ЛЯСНЫ**

ВІНШУЕМ!

# Уладзіміру МАРХЕЛЮ — 60

*Свой творчы шлях Уладзімір Мархель пачаў у 1954 годзе з вершаў, змешчаных у стаўбцоўскай раённай газеце, якая тады называлася "Голас селяніна". А з 1957 года пачаў выступаць у рэспубліканскім друку. І як паэт, і як літаратуразнаўца. Выдаў кнігі "Лірнік вясковы. Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні", "Вяшчун славы і волі", "Крыніцы памяці", "Прысутнасць былога"... Плённа працуе і ў галіне перакладу, аб чым засведчылі яго пераўвасабленні па-беларуску твораў У. Сыракомлі, В. Каратынскага, Я. Лучыны, Р. Дабравольскага і іншых. З'явай стаў выхад анталогіі беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя "Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай", укладальнікам якой з'яўляецца У. Мархель. Ён жа пераклаў для яе і асобныя творы. А яшчэ ўклаў кнігі выбраных твораў В. Каратынскага (кніга вытрымала два выданні) і Я. Лучыны.*

*Віншуем Уладзіміра Іосіфавіча з 60-годдзем! Зычым яму новых жыццёвых і творчых поспехаў!*

Уладзімір МАРХЕЛЬ



## Табе адной...

●

***Маўчыць мой верны тэлефон***
***Чаканым голасам тваім,***
***Нібы аціхнуўшы зусім,***
***Маўчыць мой верны тэлефон.***

***І як адолець мне палон,***
***Калі маўклівым нам двaім***
***Маўчыць мой верны тэлефон***
***Чаканым голасам тваім.***

●

***Нясцерпны сорам існавання***
***Нашэпча выйсце з мітусні,***
***Ты толькі раз адчуй, прысні***
***Нясцерпны сорам існавання.***

***Быццё прасветліцца дазвання,***
***Калі ў нязнанай вышыні***
***Нясцерпны сорам існавання***
***Нашэпча выйсце з мітусні.***

●

***Эскіз нявызнаных стасункаў***
***Ад нас узяты ў лёсу цень,***
***Ды кліча да сябе штодзень***
***Эскіз нявызнаных стасункаў.***

***Праліты душамі прамень***
***Хай вырве з тысячы малюнкаў***
***Эскіз нявызнаных стасункаў,***
***Ад нас узяты ў лёсу цень.***

●

***Табе адной, адзінай, адзінокай***
***Я шлю ў засветы памяць пачуцця,***
***Каб не было пустэльні небыцця***
***Табе адной, адзінай, адзінокай.***

***Пакутным часам ночаю глыбокай,***
***Калі выходзіць месяц з прыкрыцця,***
***Табе адной, адзінай, адзінокай***
***Я шлю ў засветы памяць пачуцця.***

●

***І лістапад, і снегапад***
***Дарогу ўдалеч замялі,***
***Па цаліку наўпрост ідзе мой лёс —***
***І падзяляе далягляд***
***Узоры яркія зямлі***
***І ўзоры геаметрыі нябёс.***

●

***Я кожны дзень, як пілігрым,***
***Хачу наблізіць далягляд,***
***Які ў прастора-часавай дзяльбе,***
***Каб бачыць тут, як там, за ім,***
***Не свету край, прадонне спад,***
***А сэнс быцця і, можа, сэнс сябе.***

# Засмужаная далеч

## Міколу РАКІТНАМУ — 80

Чым далей, тым часцей мне ўспамінаюцца тыя далёкія ўжо дні, калі мы — маладыя і па-свойму шчаслівыя — ляжалі пад высачэзнымі соснамі парку Чэлюскінцаў у Мінску з Міколам Ракітным і прыкідвалі планы на будучае.

Мікола жыў тады з сям'ёю ў прыватным доме — займаў асобны пакойчык, меў "Масквіч" першага выпуску. Урэшце, і сюды, у парк, мы прыехалі на тым сімпатычным "Масквічы". Ракітны ўгаворваў мяне з правінцыі перабрацца ў сталіцу: як-ніяк поле для творчай дзейнасці тут было больш прыдатнае. Мы з Міколам — амаль землякі: ён — родам з вёскі Петрыцкае Брагінскага раёна, што амаль на мяжы з Лоеўшчынай. У яго Петрыцкім мне давялося быць толькі адзін раз, ды і то па даволі сумнай прычыне: мы вярталіся з вёскі Астрагляды, дзе трагічна загінуў мой брат. Памятаю, уразіла, што сасновы бор падступаў на пясчаных пагорках да дамоў самога Петрыцкага. Будынкі склюдаваны вопытнымі гаспадарамі, усюды чыста: адчувалася дбайная рука жыхароў.

Таму і не дзіўна, што Мікола Ракітны агітаваў за пераезд у Мінск лічы свайго земляка. Пазней ён мне неяк прызнаваўся:

— Ведаеш, калі часам дабіраюся да Петрыцкага, дык за Холмічам на павароце на Брагін абавязкова ўспамінаю цябе, калі бачу ўказальнік на вёску Ястрабка.

Дзівак-чалавек: не падазрае нават, што я таксама бываю ў той Ястрабцы вельмі рэдка, хоць кожны раз больш чым па паўгода жыву на роднай Лоеўшчыне — непадалёку ад блізкіх сэрцу мясцін.

Так ужо атрымалася, што ў Мінск я тады не перабраўся (на жаль, а можа, як кажуць, на шчасце — хто ведае?), але з Міколам Ісакавічам мы падтрымліваем шчырыя, сяброўскія адносіны. Аб тым сведчаць і надпісы на яго кнігах, якія Мікола падарыў мне. У зборніку "Засмужаная далеч" змешчаны апавяданні і эцюды — імгненныя карцінкі, быццам выхапленыя рукой майстра з нашага паўсядзённага жыцця. М. Ракітны — наогул, як спрактыкаваны цясляр ці майстар-чырванадрэўшчык — працуе толькі ў сваім улюбёным жанры — апавяданні, навеле.

Прыемна, што шматлікія творы М. Ракітнага, напісаныя ў далёкія пяцідзясятыя гады, вытрымалі выпрабаванне часам. Яны — такія ж свежыя, цікавыя, быццам сышлі з пісьмовага стала



аўтара ўчора. Вось апавяданне "Сёстры". Жыццёвую дарогу дзвюх сясцёр пісьменнік прасочвае на працягу не такога і доўгага часу, але мы бачым, да чаго прыводзіць легкадумства, абыякавыя адносіны да жыцця. Хрэстаматыйнае апавяданне пра дзвюх сясцёр можна з задавальненнем чытаць і перачытваць не адзін раз.

Аднойчы Мікола Ракітны сказаў мне, што наша пакаленне пражыло сваё жыццё па-свойму годна і сумленна:

— Мы ні перад кім не падхалімнічалі, рабілі сваю справу, як маглі.

І сапраўды. У свой час Мікола Ісакавіч вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. У 1939 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію. У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях на Цэнтральным і Паўднёва-Заходнім франтах. Доўгі час працаваў рэдактарам аддзела нарыса, а пасля — аддзела літаратуры і мастацтва часопіса "Беларусь". Так што асобныя мае апавяданні і нарысы, што з'яўляліся на старонках гэтага часопіса, прайшлі і праз Міколавы рукі. Дарэчы, і ў Саюз пісьменнікаў у далёкім ужо 1950 годзе нас прымалі на пасяджэнні секцыі прозы ў адзін дзень.

80 гадоў — сталы век. І тут, як кажуць, нічога не зробіш. Але радуе тое, што не прытупілася пяро ў М. Ракітнага, ён — усё такі ж жыццялюб, дасціпны жартаўнік. І ўсё так жа пры выпадку імчыць у сваю асмужаную далеч. Але ўжо толькі не на сімпатычным "Масквічы" ("каробачцы"), а на саліднай "Волзе". А па абодва бакі бясконцай шашы мільгаюць паселішчы, лясы ўжо новага веку... Яны — быццам просяцца ў яго творы.

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

СУСТРЭЧЫ

# Эпатажу не атрымалася...

***4 красавіка 2000 года ў мінскім клубе "Альтэрнатыва" адбылася акцыя Новага Фронту мастацтваў — маладзёжнага літаратурна-мастацкага аб'яднання, якое гуртуе найбольш авангардных творцаў у досыць стракатым свеце сучаснай маладзёжнай культуры.***

Нехта з эстэтызаваных лімаўскіх чытачоў, магчыма, здзівіцца: навошта, маўляў, такой паважанай газеце асвятляць зусім нетыповую для яе падзею? Але адразу адкажу, што сучасны чалавек мусіць ведаць усё, што адбываецца і робіцца ў нашай культуры, у яе маладзёжным асяроддзі, на якое маюць спадзевы мэтры і класікі.

Як сведчыць афіша, перформанс, выступ паэтаў і рок-канцэрт, на які склікалася публіка, насіў назоў "Свята муміфікатараў". Калі б вы туды завіталі, то, відаць, зразумелі б адразу, каго хацеў муміфікаваць аўтар перформанса "Попел" Ілля Сін, які бязлітасна здзекаваўся над дзіцячымі цацкамі, падпальваў іх, а пасля раздорваў тое, што ад іх засталося, агаломшаным гледачам.

Пасля на сцэну выйшлі неамадэрновыя паэты, глядзець на якіх, за выключэннем хіба што Вальжыны Мартынавай (падчас выступу назвала сябе Морт), было сумна і страшна. Юрый Барысевіч аб'явіўся на сцэне ў вобразе смерці, у чорным адзенні і з маскай, якую, з прыстойнасці начапіць пабаяўся. А Віктар Жыбуль выйшаў у металічнай сетцы на галаве, праз якую было нават цяжка пазнаць твар самога паэта. Тое, што яны чыталі, было яшчэ досыць успрымальна (наўмысна не кажу аб якасці твораў, бо яны, папросту, не трываюць крытыкі), але тое, што адбывалася, калі на сцэну выйшлі рок-музыкі, кінула нават бывалую клубную публіку ў дэпрэсію.

Альгерд Бахарэвіч, рок-паэт і лідэр гурта "Правакацыя", падчас канцэрта вырашыў канчаткова распрануцца, каб сцвердзіць у сабе секс-ідала нашай новай паэзіі, — яму, мабыць, стала задужа горача ў святле клубнай рампы! На ягонай спіне, тыя што яшчэ заставаліся ў зале, маглі выразна прачытаць ангельскае слова "crazy". Відавочна, на той момант стан псіхікі нашага аголенага паэта мог бы пацвердзіць любы ўрач-псіхіятр, але такіх не аказалася і канцэрт працягваўся.

Апафеозам яго стаў выступ паэта Зміцера Вішнёва, які пад няспынны барабанны бой выкрыкваў штосьці незразумелае, роў, як мядзведзь, і валяўся па падлозе, відаць, імітуючы мумію і сам працэс муміфікацыі... Добра ад такога відовішча было толькі самім муміфікатарам, астатняя ж публіка спачатку доўга не магла зразумець, што ёй паказваюць, а пасля папросту разбеглася.

"Зусім не ў кайф!" — азваўся нехта з натоўпу.

У самым канцы выступала група "Солнце-Цветы", якая завяршала ўсю імпрэзу і, пратрымаўшыся на сцэне паўтары гадзіны, хоць крыху скрасіла дэпрэсіўны настрой публікі і здолела падараваць ёй колькі хвілін музыкі і паэзіі.

Вось такая "творчая" моладзь, дакладней, яе авангард! Сапраўды, куды ўжо Анатолю Сысу і Сяргею Патаранскаму з іхнімі выкрунтасамі, якія падаюцца дробным хуліганствам у параўнанні з "непараўнальнай" творчасцю майстроў-муміфікатараў! Адное, што публіку шкада. Зразумела, у нашых неавангардыстаў нервы жалезныя, але за што ж вы нас так, сябры?!

**Удзячны глядач і слухач**
**Севярын ЧАРЭШНЕЎ**

# Вербная нядзеля, або Ці быў хлопчык у бесказырцы?

***Прасторным красавіцкім ранкам, калі горад імкліва напаўняецца гукамі, фарбамі і пахамі, добра думаецца пра драўляны, задуменны Давыд-Гарадок над хуткаплыннай, светлакосай Гарынню...***

***Сёлета закалыханаму квяцістаму морам красак і белапенных садоў палескаму старажылу, равесніку сівога Турава, спаўняецца 900 гадоў...***

***Прыцягальнасць і загадкавасць Гарадка Давыдава, мне думаецца, яшчэ і ў тым, што яго старажытнасць арганічна і суладна ўжываецца з неперапыннай маладосцю (тут, дарэчы, ніколі не стаяла праблема наступстваў міграцыі моладзі ў буйныя гарады і, адпаведна, пераемнасці пакаленняў), а яшчэ... Карацей, пра гэта мой новы твор.***

***АЎТАР***

...Уранні, каб пазбавіцца паху хлява — два дні запар валачылі на ношках гной на агарод, — што даставаў цяпер у хаце і на вуліцы і якім, здавалася, наскрозь прапахла веснавое паветра, я вырашыў прайсціся па мястэчку і запаволіў хаду толькі ля хуткаплыннай Гарыні. На блакітнай паверхні неспакойнай вады пагойдваліся беласнежныя чароды гаспадарскіх гусей. А яшчэ адсюль, з вышыні бетоннага моста, добра відаць на правым узбярэжжы старажытнае замчышча. Я ўзіраюся, як у чароўнае люстэрка, у лона вады, што, як і жыццё, не можа перапыніць сваю плынь нават на хвілю, яна ж — сведка стагоддзяў. Аднак рака — хоць і жывая, але маўклівая сведка, і ў яе цудоўным люстэрку можна ўбачыць адлюстраванне толькі сённяшняга дня: адлюстраванне моста, дуплістых вербаў, што задумліва пазіраюць у раку, мусіць, не адно стагоддзе, аблокаў, — астатняе скурочыў і праглынуў час.

На жаль, чалавечая памяць здольная захаваць няшмат — толькі тое, чаму сведкам быў у дзяцінстве. З вышыні пражытых гадоў, успомнілася, як тады, напрыканцы 50-х, мясцовымі ўладамі забаранялася паласкаць бялізну ў рацэ, ваду з якой мястачкоўцы ўжывалі без усялякай боязі. Неаднойчы назіраў (з гатак[1] ці з драўлянага моста, калі вудзіў рыбу), як да кабет, занятых не гэтак паласканнем сваіх трантаў, як гаманой на касе, падлятала аднекуль маторная лодка, і рачны чыноўнік пры форме нешта злосна выгаварыўшы парушальніцам, хапаў у абярэмак тыя транты і кідаў на раку: маўляў, перапімай! Другі раз будзеш ведаць...

У дзіцячай пары засталіся ў памяці акуратна пафарбаваныя шчыльныя платы, пабеленыя дрэвы на вуліцах і бардзюры брукаванкі, па-за ўвагай грамадскіх санітараў не заставалася ніводная гарадская прыбіральня. Гарадчукі заўсёды па-гаспадарску ставіліся да ўсяго, што складала іх навакольны свет — ад уласнага падворка да, так бы мовіць, грамадскай тэрыторыі...

●

Давыд-Гарадок існуе ў часе і ў прасторы асобна, як бы сам па сабе. Канешне, прасцей і зручней вызначыць яго "жывую" асаблівасць і адметнасць перш за ўсё за кошт гандлёвага гешэфту — "руху", які пануе тут дзесяцігоддзямі і пачынае штогод набіраць хаду адразу пасля Нараджэння Хрыстовага і Вадохрышча, калі церпкаваты пах насення кветак і гароднін на знакамітым мясцовым базары перабівае ўсе астатнія, разам узятыя. Гарадок прыкметна ажывае — яго насельнікі, рыхтуючыся да ад'езду на доўгатэрміновую "сесію" за Уральскі хрыбет, рупліва шчыруюць над ношкамі насення: мяняюць, дасыпаюць, абнаўляюць мяшэчкі... Праўдамі і няпраўдамі здабываюць адпаведныя дакументы на права продажу насення, да драбніц абмяркоўваюць зваротны маршрут. Занятак, калі ўнікнуць, цяжкі, не для слабых, і даволі небяспечны: ці давядзецца вярнуцца пад дзедаўскія вербы над Сежкай?..

Але часы, калі гарадчукі займаліся мяшэчна-насенным промыслам, у сутнасці манапалізаваўшы яго па ўсім былым Саюзе, карэнным чынам змяніліся. Сёння гандлююць, без перабольшання, амаль усе. Аднак гарадчукі, валодаючы ў параўнанні з гэтымі "ўсімі" каштоўным вопытам, назапашаным дзесяцігоддзямі, не згубіліся ў агульнай масе гандлюючага люду. Часы самаробных палатняных мяшэчкаў з насеннем і фанерных этыкетак, маляўніча распісаных алейнай фарбай, якіх, дарэчы, налічваліся сотні і з якімі хапала клопату, падобна, скончыліся назаўжды. Гарадчукі — народ кемлівы: прааналізаваўшы сітуацыю на базарах і рынках, змікіцілі, што асноўны іх канкурэнт не нейкі там "чаўнок", паўзадушаны дзяржпадаткамі, ці неразборлівы прагны перакупшчык, а сама дзяржава, дакладней — дзяржаўныя насенныя ларкі, якіх, дарэчы, не так ужо й густа, але, каб канкурыраваць з імі, трэба працаваць па-сучаснаму. Самаробныя мяшэчкі тэрмінова замяняліся на друкарскія маляўнічыя пакецікі, пазначаныя адпаведнымі кароткімі даведкамі, датамі, гарантыямі і, зразумела, штампікам. Пакецікі — патрабаванне часу і гарант поспеху — сёння ў любой колькасці надрукуе за адпаведную плату ўсялякая друкарня, няхай яна сабе дзяржаўная ці прыватная, неабходны асартымент таксама знойдзецца ў кожнай хаце — з тых жа ношак, што верай да праўдай служылі сваім гаспадарам не адзін год, даючы ім кавалак хлеба на марозных рынках Краснаярска, Барнаула, Чыты, Хабараўска і Усурыйска. Такім чынам, застаецца толькі расфасаваць насенне ў пакецікі, раскласці па найменні насенне кветак і гароднін ў акуратныя стосікі, надзейна змацаваць аптэкарскімі гумкамі, запоўніць гэтым пярэста-маляўнічым таварам-асартыментам неглыбокі фанерны "дыпламат", памерам метра паўтара на паўтара, які знешне хутчэй нагадвае пераносны мастакоўскі эцюднік, — і сучасная ношка для гандляра гатова. Акрамя таго, у параўнанні з дзяржаўнымі гандлярамі насеннем прадпрымальны гарадчук атрымлівае, так бы мовіць, манеўраны прастор — сваю "ношку" ён можа, карыстаючыся паслугамі грамадскага транспарту, аператыўна разгарнуць практычна ў кожнай, папярэдне аблюбаванай ім, кропцы буйнога горада. Адзіны, бадай, недахоп сучаснага сервісу: у палатняных мяшэчках насенне дыхае, захоўваючы сваю ўсходжасць не адзін год, а замураванае ў папяровым пакецiку яно хутка паміраe.

●

І ўсё ж "насенны гешэфт" і "веснавы рух", важкасць якіх ніякім чынам нельга прынізіць, — гэта толькі звёны ў ланцужку тых, кажучы мовай сучаснай, прыярытэтаў, дзякуючы якім Давыд-Гарадок утрымліваецца на плыву. Справа ў тым, што ў летапісных фаліянтах Гарадок Давыдаў значыцца як "горад майстроў", людзей таленавітых, адзначаных божым дарам, і, як правіла, самастойных, непадуладных палітычнаму надвор'ю, што даволі часта мянялася тут; людзей, якіх лёс і стыхія вымушалі пастаянна выжываць у экстрэмальных сітуацыях, якія прызвычаіліся на працягу стагоддзяў спадзявацца толькі на ўласныя сілы і магчымасці. Ці не таму першымі людзьмі ў мястэчку ва ўсе часы былі цесля і шавец, муляр і распілоўшчык бёрнаў, бондар і каваль, кравец і лодачнік, бляхар і гарбар, каляснік і пячнік... Менавіта адсюль распаўсюджаныя ў мястэчку прозвішчы: Бондар, Цяслюк, Кавалец, Мельнік, Рымар, Ткачык, Партач, Гліняны, Чарапок, Пуп, Ажог... Не заставаліся без кавалка хлеба ў самыя ліхія гады мясцовыя прамыславікі — паляўнічы і рыбак, а таксама млынар, пчаляр, каўбаснік, нарыхтоўшчык ягад, грыбоў, лыка, дзічыны, рыбы, уюноў, ракаў, — сыравіны, якую за бясцэнак забіралі ў працавітага, здабытлівага гарадчука скупшчыкі-яўрэі, прадпрымальна перапрадаючы ў літаральным сэнсе каштоўны тавар рэкамі ў Кіеў, Кракаў, Львоў, Варшаву, Мінск, Вільна і далей, маючы са свайго гешэфту нечуваныя барышы. З гэтай нагоды — яшчэ адзін успамін бабулі Наталлі Мікітаўны, які светлым праменьчыкам цепліць памяць:

— Жыды колісь у Городку ўвесь гандаль трымалі ў своіх руках. Самі з того хлеб елі, і гоя, навошчо грашыць Богу, моцно не крыўдзілі. А тута, яшчэ я ў дзеўках бегала, було-перабуло іх — масота! З усіх, праўда, анно одзін запомніўся — Яўхім Шульман, потому шчо заўсегда становіўся на постой у нашой хаце ў Радзічах. Скупаў по вёсках лыко. От, бувало, прыедзе ўжэ вечаром, вываліць на стол гору госцінцоў, выставіць пляшку горылкі — мама моя добрую вячэру прыстараецца: свежой рыбы насмажыць, юшкі зварыць, чыгун ракоў... А Шульман моцно ж любіў суп з сушоными ўюнамі! Чоловакі вып'юць по шкалiку — гандаль почынаюць. А ў Трофіма Коплі, суседа нашого, жалудок порчаны шчэ з войны з германцам, ковда буў у пляну ў Прусеі, ну і ковда додому вярнуўся, то, звесно, жыў на одной бульбіне да цыбуліне. Му-у-учыўся, небарака, особліво як позайздросціць на яду і не ўтрымаецца... Да ўжэ, бувало, прываліцца спіною шчыльно до сцяны, вочы ад страху вытарашчыць і блазніць шчо ёсць моцы:

— Тры злотых за кубік! Ні гроша больш!..

А Шульман, не марудзячы, дае ответ:

— Троня! Дам і чотыры! Толькі выйдзе зараз на ганок!..

Ну, уся хата — старыя і малыя — у рогот. У нястачы жылі, мой унучку, а було весело... бо радасць за грошы не купляли, як цяперака. Ёсцека — для ўсіх, нямашака — такой бяды.

Настрой дзевяностагадовай Наталлі Мікітаўны, яе аптымізм і прыродны гумар — у характары патомнага гарадчука. Тут ніколі на прасторных пляцах, колькі я памятаю сябе, не перапынялася будоўля. Замест старых дамоў будуюцца новыя, на падворках — цесна ад прыбудоваў: адрыны, майстэрні, гаражы, летнікі. У апошнія два-тры дзесяцігоддзі драўляныя пабудовы былі прыкметна пацеснены цаглянымі мурамі ды двухпавярховымі катэджамі на заходні манер.

Вока заезджага чалавека здзіўляюць не толькі падмуркі новых хат у розных "мікрараёнах" Гарадка, але й натоўпы маладых людзей на яго вечаровых ажыўленых вуліцах, асабліва на святы, калі маршрутны аўтобус з Мінска ці Брэста ледзь прасоўваецца па запоўненай моладдзю цэнтральнай брукаванцы, якую яшчэ называюць Альшанскай вуліцай, да аўтастанцыі за Гарынскім мостам.

●

Малады гарадчук без асаблівай на тое прычыны ніколі не сарвецца з роднага гнязда — карані ў яго глыбокія; за доўгім рублём, а таксама "за туманом и за запахом тайги" ехалі за свет толькі адзінкі, але і яны, не знайшоўшы там прытулку, аднойчы з'яўляліся ў Гарадку — яшчэ маладыя, а ўжо з сівымі, паніклымі галовамі, змучаныя жыццём, здаралася, безнадзейна хворыя. Вярталіся, каб ужо не жыць, а дажываць адведзеныя ім бязлітасным лёсам лічаныя гады, калі не месяцы і дні, і, нарэшце, знайсці спакой у роднай зямельцы.

У 60—70-я гады, калі вясковая моладзь рынулася ў ВНУ і тэхнікумы набіваць веды, мястэчковыя "медалісты" і "харашысты" таксама не засталіся ўбаку, часткова асеўшы потым у Мінску, Брэсце, Віцебску, Ленінградзе і Маскве. Аднак міграцыйныя працэсы, якія сталіся для правінцыі, асабліва для малых вёсак і хутароў, іх далейшай "неперспектыўнасцю", занядбаннем і паступовым паміраннем на вачах усяго цывілізаванага свету, Давыд-Гарадок амаль не адчуў на сабе наступстваў дэмаграфічнага выбуху. Больш таго, тая частка "залатой" моладзі, якая скончыла прэстыжныя ВНУ і па накіраваннях апынулася ў самых аддаленых кропках агромністай краіны, праз пэўны час вярталася ў родныя палескія шыроты і ўладкоўвалася на працу калі не ў Давыд-Гарадку ці Століне, дык недзе паблізу — у Тураве, Мікашэвічах, Лунінцы, Пінску. З усіх сістэмаў, якія выпрацавала чалавецтва, якімі атачыла сябе і якім падпарадкавала сябе, для гарадчука, дзе б і кім ён не быў, заўсёды надзейнай спрацоўвае адзіная — роднасная. Каранёвая.

Менавіта глыбінныя карані жывяць дрэвы цудадзейнымі, гаючымі сокамі, выпрацаванымі матухнай-прыродай у патаемных нетрах зямлі. Вось і чалавек, з'яўляючыся часцінкай прыроды, жывіцца яе сокамі, пакуль ён не адарвецца ад галінкі дрэва, як пажухлы ліст і не паляціць кулём у белы свет. Сэнс гэтай метафары, мне здаецца, вельмі пасуе гарадчуку.

●

Рэха атамнага выбуху над Прыпяццю, якое размежавала жыцці людзей на перыяды "да" і "пасля" аварыі, дакацілася і да старажытнага Давыд-Гарадка, засеяўшы за яго сценамі сваю злавесную дзялку — "чарнобыльскія магілкі".

Калі я думаю пра лёс маіх землякоў, якіх стагоддзямі загартоўвала стыхія — то паводкі, то пажары (апошні — у 1936 годзе, калі драўляны горад на астравах Гарыні выгараў амаль дашчэнту, тады ж засталіся галавешкі і ад Уваскрэсенскай царквы на старым замчышчы, якую, на вялікі жаль, да апошняга часу так і не адбудавалі нанова), калі я наогул думаю пра сваю малую радзіму, то, здаецца, пачынаю разумець, адкуль у гарадчукоў раптам выяўляецца такі запас трываласці, што дазваляе ім выжываць у трывожныя часы ў самых, здавалася, безнадзейных сітуацыях.

У гэтай сувязі ўзгадваецца даўні аповед маці, які цудам захавала памяць, пра тое, як у вайну яе бацька, а мой дзед, Пятро ненаўмысна ўтапіў на Гарыні немца, за што ледзь сам не развітаўся з жыццём... А здарылася вось што. Красавіцкай парой 1942 года, надвячоркам, у хату ўваліліся два нямецкія салдаты з мясцовага гарнізона і загадалі гаспадару тэрмінова перавезці іх на другі бераг. Справа ў тым, што драўляны хісткі мост цераз імклівую, паўнаводную ў гэтую пару Гарынь напярэдадні падрэзала крыгамі і каторы ўжо раз на памяці старых мястачкоўцаў знесла. Немцы былі на добрым падпітку, а на перасцярогі гаспадара, што, маўляў, небяспечна ўтрох на чоўне цераз веснавую раку — перавернемся! — загергеталі нешта па-свойму і наставілі на палешука аўтаматы.

Пасярод ракі, на строме, чаўнок не ўдалося выправіць, ён крутнуўся бокам і, як шкарлупіна ад яйка, перакуліўся. Аднаму немцу, які патрапіў пад руку, дзед Пятро, сам цудоўны плывец, падмог дабрацца да зарослага вербалозам берага, другі — каменем пайшоў на дно. Калі яго паднялі невадам ажно за паўкіламетра ўніз па рацэ ад месца, дзе перакуліўся човен, то выпадкова знайшлі ў тапельца заціснутую пад пахай задушаную курыцу, відаць, украдзеную. Дзеда Пятра спачатку збіраліся прылюдна павесіць, як памагатага партызанаў, але выратаваны ім немец далажыў свайму начальству ўсё, як было, ад самага пачатку і, тым самым наклікаўшы на сваю галаву пакаранне, адвёў ад невінаватага чалавека смерць. Потым, пасля вайны ўжо, старыя рыбакі сведчылі, што перад тым, як падняць тапельца, бачылі ўначы на тым самым месцы нейкае загадкавае свячэнне — срэбны слуп святла (месяца на небе якраз не было) гойдаўся над вадой. А як зачапілі і выцягнулі на касу немчура — слуп адразу некуды знік. І тлумачылі гэта тым, што рака не хацела хаваць у сваіх нетрах ворага-рабаўніка, і вышэйшая божая сіла сама паказала людзям месца, дзе ён ляжыць, каб яны пазбавілі да брыдоты раку, бо яна ва ўсе часы павінна заставацца ч ы с т а й.

Цяпер, калі я, шэпчучы сваю малітву да Бога, прашу Яго не пакінуць сам-насам з бядой маіх землякоў, у душы ўмацоўваецца надзея, што вышэйшая божая воля зноў пакажа праведны шлях не толькі маім гарадчукам, але й усяму чалавецтву, і выратуе нас.

●

...А ўпершыню пад скляпенні драўлянай Юраўскай царквы я ўзышоў разам з бацькамі ў пяцігадовым узросце. Запомніліся шаўкавістая сакавітая трава на цвінтары, дабрыня і святочнасць, што луналі на тварах гарадчукоў і праменілі ў паветры. Цвінтар быў расквечаны каляровымі кошыкамі з яйкамі: была светлая Паска, якую, казалі, прынеслі на крылах буслы... Хораша, чыста і ўтульна было на душы.

І вось — зноў Вербная нядзеля. Свята вясны. Патомныя гарадоцкія майстры, аднавіўшы шатры Юраўскай царквы і нанава распісаўшы яе скляпенні, падарылі шматлікім прыхаджанам, як самі казалі, "не царкву, а лялечку". Праўда, цвінтар, засмечаны надаўняй паводкай, на гэты раз падаўся не такі прасторны і ўтульны. Змяніліся, відаць, і мы — гады бяруць сваё. Адно, бадай, усцешвала: людзей, у большасці незнаёмых, і зараз было столькі ж, калі не болей, як і амаль сорак гадоў таму. Але нікому не было цесна, няўтульна, што бывае толькі ў храме, дзе не ўбачыш зласлівага твару, дзе душа ачышчаецца ад бруднага паўсядзённага накіпу...

Прыемна здзівіла і тое, што вакол былі пераважна маладыя твары, было шмат дзяцей. У засмуглым на вешняку хлапчуку, апранутаму ў шыкоўны джынсавы касцюмчык з шматлікімі фірменнымі бляшкамі, я нечакана пазнаў, калі прыгледзеўся, сябе, таго пяцігадовага, вось толькі на мне, памятаю, былі сіняя матроска і бесказырка з залацістым надпісам "Аўрора".

Змяніліся часы — і каштоўнасці таксама. Але захавалася галоўнае — хлопчык, як і я некалі, стаяў у праваслаўным храме. Магчыма, ён не ўсё разумеў з таго, што адбывалася навокал яго, але душа яго, і гэта было выразна бачна па вачах дзіцяці, прычашчалася зараз да высокіх, узнёслых словаў казані, яна не заставалася абыякавай да той асаблівай ачышчальнай атмасферы, што заўсёды пануе ў царкве на свята...

Урачыста і велічна гучала малітва Богу ў аднаўленым Георгіеўскім храме, і ў суладным хоры патануў і мой голас... Ад пачуццяў, што перапаўнялі людзей у гэтыя хвіліны, пры трапяткім святле мноства запаленых свечак, бачыў я ўдзячныя слёзы на гэтых прасветленых малітвай тварах, і не прыкмячаў свае, як і не чуў уласнага голасу. А прасіў я ў Госпада, каб ён злітаваўся над гаротным лёсам маёй мамы і аблегчыў яе пакуты...

...Хлопчык угледзеўся на клірас, дзе спявалі пеўчыя: словы малітвы, падхопленыя там і ўзнятыя да недасягальнай вышыні, вырываліся з-пад сутарэнняў царквы, чыстым срэбрам узляталі ў паднябессе...

Над царквою ў гэты дзень лунаў цень Божай Маці, бароніў нашы стомленыя душы...

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ**

[1] *Гаткі (аўт.) — умацаванне берага з дзікага камення.*



**ЧАСАПІС**

## Ёсць ідэя... славянская

**Выйшаў з друку першы ў двухтысячным годзе нумар часопіса Arhce. Тэма нумара — "Панславізм: думка і злачынствы". Зазвычай славянафільства і панславізм ацэньваюцца беларускімі адраджэнскімі выданнямі, арыентаванымі на дэмакратычную Еўропу, мякка кажучы, неадназначна. Нічога дзіўнага — варта толькі паглядзець, якія сілы грамадства эксплуатуюць гэтыя ідэі. Аднак і на гэты раз Arhce пастараўся быць аб'ектыўным і прадставіў на заяўленую тэму выступы аўтараў розных, нават супрацьлеглых, поглядаў.**

**Нумар адкрывае артыкул ад рэдакцыі, напісаны Андрэем Дынько, дзе панславізм ацэньваецца як досыць рэакцыйная з'ява. Выступ Сакрата Яновіча "Бяда за бядою" зазначае, што "Усякія пан-рухі нараджаюцца ў заняпалых зонах свету, прыкладам: панцюркізм, панарабізм, панамерыканізм у Лацінскай Амерыцы ці панафрыканізм".**

**Увогуле трэба зазначыць, што ўвесь нумар "панславянскага" Arhce атрымаўся нават не культуралагічным, а паліталагічным.**

**Вынікі апытання Arhce на тэму "Якія, на вашу думку, перспектывы славянства і славянскай ідэі ў будучай аб'яднанай Еўропе?" сведчаць таксама, што тэма панславізму вельмі актуальная. Рэдакцыя часопіса нават зазначае, што не чакалі столькі водгукаў. Кожны адказ надрукаваны пад назвай, у якой сканцэнтравана яго галоўная ідэя. Адказ пісьменніцы С. Алексіевіч надрукаваны пад назвай "Славянскі свет аб'яднаецца", рэдактара часопіса "Фрагменты" І. Бабкова — "Неактуальны праект", З. Бжэзінскага, амерыканскага палітолага — "Славянская ідэя — міфічны лозунг". Т. Бондар сцвярджае: "Славянскія народы маюць місію", а К. Гэберт, польскі грамадскі дзеяч і рэдактар — "Не ведаю такой ідэі". Украінскі філосаф, рэдактар часопіса "Генеза" С. Грабоўскі таксама лічыць панславізм міфам XX стагоддзя. Украінскі філосаф і літаратуразнаўца А. Забужко кажа "Не веру ў групавыя ідэнтычнасці". Адказ А. Трусава, кіраўніка ТБМ, друкуецца пад назвай "Панславізму няма месца", прафесара Ю. Хадыкі — "Нежыццяздольная абстрактная палітыка". К. Чыжэўскі, польскі культурны дзеяч, рэдактар часопіса "Красногруда", лічыць, што славянская ідэя "Мае перспектыву, калі адмовіцца ад выключнасці".**

**Для чытачоў, якія не надта абазнаныя ў гісторыі, артыкул "Славянская Еўропа" прапануе кароткае знаёмства з тымі народамі, што маюць дачыненне да панславізму.**

**Літаратурная частка нумара прадстаўлена раздзелам з рамана сербскага пісьменніка і дысідэнта В. Драшкавіча "Нож", прысвечанага нацыянальна-вызваленчаму змаганню сербаў, сумна іранічнай гісторыяй А. Глёбуса "Шавініст расейскі", фантасмагорыяй І. Сідарука "Выкраданне вепрука" з алюзіямі на традыцыйную беларускую вясковую прозу, вершамі О. Любіча-Мілаша, французскага паэта беларускага паходжання ды творамі чэшскага паэта-дысідэнта І. Блатнога. Да вершаў апошняга тэматычна прымыкае верш М. Шчура "Альшанскія Могліцы". У рубрыцы "Хроніка" працягваецца друкаванне "Турэмнага дзённіка" С. Адамовіча, а ў рубрыцы "Вожык" змешчаны тэкст А. Хадановіча "З чаго пачынаецца Жодзіна?". Яшчэ можна згадаць, як непасрэдна датычныя да мастацкай літаратуры, крытычныя артыкулы Ч. Мілаша "Дастаеўскі і Сартр" і Т. Мана "Фрагмент пра Гётэ і Талстога".**

**З іншых матэрыялаў вартыя ўвагі артыкулы Я. Патачкі "Чым ёсць чэхі" і Я. Станкевіча "Маскальшчына і Еўропа". У рубрыцы "Балканы" друкуюцца артыкулы Я. Новікава "Есіп Броз Ціта, альбо Праўдзівая гісторыя росквіту і падзення панславізму ў Югаславіі", А. Дэбеляка "Сутонне ідалаў (успаміны пра былую Югаславію)", К. Чыжэўскага "Косаўскія варыяцыі" і Д. Янчара "Славянскія маргіналіі". У рубрыцы "Геапалітыка" — артыкул амерыканскага палітолага Р. Пайпса "Мінуўшчына Расеі і яе будучыня", а ў "Кнізе" — тэкст В. Чэрнага "Развіццё і злачынствы панславізму".**

**У адрозненне ад папярэдніх нумароў, у гэтым тэма нумара з'яўляецца настолькі моцнай дамінантай тэкстаў, што не дае ім магчымасці дрэйфу да нейкіх маргінальных праблем або сумежных тэм. І не дзіўна, бо тэма "славянскай ідэі" патрабуе навуковай, прафесійнай аналітыкі, тым больш, што яна сфармулявана наступным чынам — "Панславізм: думка і злачынствы". Вядома, найлепш аддаць перавагу думцы, а не эмоцыям на нацыянальнай глебе.**

**Хаця куды ад іх, гэтых эмоцый, падзенешся...**

**Паглядзець хаця б на вокладку нумара аўтарства А. Адамчык, на якой красуецца прыгажуня — увасабленне паганска-славянскага тыпу, якая, па звестках з друку, была ў свой час прызнана "Міс Грудзі" і "Міс Скура"...**

**Н. К.**




# Народны місіянер

Гэта было даўно. Вясной 1947 года. У дні маёй незабыўнай маладосці. Але той сонечны вясновы дзень запомніўся на ўсё жыццё.

Я настаўнічала ў Астрашыцкім Гарадку пад Мінскам, і ў той дзень пайшла наведаць бацькоў сваёй вучаніцы. А ў іх — госці: сын Сяргей і яго таварыш па вучобе Пятро — студэнты 3 курса медінстытута. Нас пазнаёмілі, і праз нейкіх пятнаццаць хвілін юнакі здаваліся мне даўнімі аднадумцамі, больш таго — сябрамі, з якімі добра і пажартаваць, пасмяяцца, і сур'ёзна паразважаць "за жыццё". Размова ішла весела, нязмушана. Зараз не прыпомню, пра што гаварылі, акрамя адной тэмы: як важна любіць абраную прафесію і працаваць так, каб прыносіць радасць і людзям, і сабе. Тады жыццё тваё можна лічыць апраўданым і шчаслівым. І Пятро раптам сказаў: "Я наогул думаю, што работу настаўніка і ўрача можна параўнаць з місіянерствам".

Слова "місіянерства", якое вельмі рэдка тады ўжывалася, сам велічны сэнс яго ў кантэксце сказанага ўразілі мяне і я з большай зацікаўленасцю глянула на юнака. Малады, адкрыты, чысты прыгожы твар, блакітныя вочы, якія ў залежнасці ад настрою маглі цямнець, атлетычны склад, вышэй сярэдняга рост — усе знешнія праявы выдавалі на тое, што за сціпласцю, пазначанай інтэлігентнасцю, пачуццём гумару непрымусова хаваецца пачуццё ўласнай годнасці, усвядомленай адказнасці перад жыццём.

Потым хлопцы праводзілі мяне. Вечар быў вельмі цёплы. Мы яшчэ пагулялі над возерам, паслухалі салаўёў. Нарэшце развіталіся. А ў душы засталася нейкая ціхая радасць, жыла ў сэрцы, і я села дома за стол, напісала верш. Просценькі вершык, але ён, здаецца, добра перадаваў мой тадышні душэўны стан:

### Сустрэча

*Прысвячаю П. С.*

***Нечакана прыгожай сустрэча была,***
***Яна веру ў жыццё, свае сілы мацніла.***
***Яна бляскам вачэй зацвітала-цвіла,***
***Харастваом светлых думак,***
***парываў дзівіла.***

***Хай адзін толькі МІГ. Прыляцеў —***
***і адплыў.***
***Ён у сэрцы — як песня, як дзіўная казка.***
***І я ТЫМ, хто са мною яго падзяліў,***
***Зычу поспехаў, шчасця —***
***у сонечным бляску!***

Больш сустрэчы не было. З Пятром абмяняліся двума лістамі. Адзін з яго лістоў цудам захаваўся. Пажоўклі лісткі са школьнага сшытка, але і за 53 гады (з часоў напісання) не выцвіла чарніла, а думкі, якія ён даверыў мне, уяўляюцца цікавымі і зараз: у іх высвечваецца будучыня, да якой імкнуўся юнак.

*Павязынь, 7.06.47 г.*

**Добрым пажаданнем вітаю вас, Ларыса Лявонцеўна!**

**Пішучы гэтыя некалькі радкоў, мне сорамна самому перад сабой за тое, што я не мог даць адказ вам на ваша пісьмо, у каторым так многа цёплых слоў, заахвочваючых да новага чыну, каб быць дастойным місіянерам у будучым. Вы думаеце пра мяне добра, хочаце бачыць ува мне дастойнага ўрача — я выканаю гэта і буду ім. Я думаю дасягнуць мэты!**

**Вы пішаце, што мала знаеце пра мяне, больш уяўна, я вас запэўняю, што я такім у большасці і з'яўляюся, і калі яшчэ не поўнасцю, то я хачу быць такім. Я ім буду! Не падумайце, што я хачу пахваліцца перад вамі ці пацвердзіць вашы ўяўленні; не, я толькі хачу з вамі падзяліцца тым, што я маю і аб чым яшчэ мару. Я не раз засяроджваўся на тым, якое дзіўнае жыццё, колькі яно чароўнага захоўвае ў сабе...**

**Усяго найлепшага і жадаю весела правесці канікулы!**

***Пеця.***

**P.S. Пішу з свайго роднага сяла ў вольны час ад "зуброжкі".**

Прайшло паўстагоддзя і яшчэ два гады. Гартаю чарговы нумар "Полымя" за 1999 год. У часопісе цёплыя, змястоўныя, літаратурна добра напісаныя ўспаміны пра Максіма Танка. Аўтар — Пётр Кузюковіч, урач, які лячыў народнага паэта, быў сваім чалавекам у яго сям'і. Я адразу здагадалася, што гэта ніхто іншы, як мой даўні знаёмы юнак, і вельмі захацелася дазнацца, якіх вяршынь ён дасягнуў і як ён сцвердзіў сваё місіянерства.

Як адшуквала каардынаты Пятра Маркавіча Кузюковіча, як званіла яму і нагадвала

# ТРЫ ДНІ НА ВЫСПЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

І тое покрыва і змрок, што ўжо гусцеў перад золакам, былі выратавальнымі ім. Яны, падобна зоркам, што ўвесь час амаль непрыкметна мігцелі на небе, таксама маўчалі адно перад адным, не гаварылі, а раскрываліся душамі, сэрцамі, звярталіся імі непасрэдна да тых жа зорак і месяца, касмічнай бясконцасці сусвету, сігнальна папярэджваючы яго думкай, што толькі-толькі нараджалася ў іх і не набыла яшчэ пэўнасці, думкай, якую там, на нябёсах, не было патрэбы разжоўваць, прагаворваць услых усю да кропкі і такім чынам губляць. Бацька і сын былі як дзве істоты, напалову зямныя, напалову касмічныя. Неба слухала іх душы стэтаскопам месяца і разумела, што тоіцца за кожным іх словам, уздыхам, проміргам вачэй. За шэптам — крык, за спакоем — стогн і боль, за ціхмянасцю, памяркоўнасцю — адчай і бунт.

Усё тое самае, што спакон веку існуе і ў прыродзе, і ў свядомасці чалавека, а не толькі ў добры ціхі час хаваецца ўсярэдзіне, душыцца, глухне і слепне пад непамерным цяжарам людскога клопату, няўмольнасцю часу, хвілін, кожная наступная з якіх вымушана знішчыць папярэднюю, каб адбыцца самой, шматгалоссем мінулага, будучага і сённяшняга, што адначасова нябачна і нечакана сутыкаюцца, як нябачна з магілы вырастае незабудка ці бяссмертнік. І абедзве гэтыя кветкі, смертныя і бессмяротныя, імгненныя і вечныя, як сама зямная цвердзь, з якой яны паўсталі, мо нават і не здагадваюцца, што гэта неасэнсаваны, паўзучы пратэст іх сціплага і кароткага існавання. І сам пратэст гэты — вечны, як і пратэст усяго існага на зямлі, таго ж аднадзённага матылька. І акурат якраз у гэтым і змяшчаецца неапазнаная і неспазнаная, выпеставаная і сатканая самой прыродай, вышэйшым яе розумам бясконцасць, што ўласціва, прыналежыць адначасова жывому і мёртваму, адушаўлёнаму і бяздушнаму. І мо больш апошняму, неадушаўлёнаму, што не дапяў яшчэ да ўсведамлення, наяўнасці ў ім душы і розуму. Розум ужо ў самім свеце, святле і змроку. І мо іменна ў змроку розуму ўсё ж больш, таму што амаль усё сярэдняе, што не мае таго розуму, а толькі пнецца паказаць сябе разумным, тым часам адпачывае, займаецца адзіным, на што здольна, — спіць. І таму сын у гэтым змроку набывае бацьку, а бацька — сына. Вяртаюць адно аднаму тое, што згублена імі па залежных і не залежных ад іх прычынах, сапраўднае, людскае, сваю сутнасць. І колькі б сына- і бацьказабойстваў можна было б пазбегнуць, калі б гэта надаралася як мага часцей. Мо атрымалася б пазбегнуць і таго, што адбылося тут, на пядзі зямлі, на купіне сярод балота шмат гадоў назад уначы, падобнай гэтай.

Гаўрыла ўпершыню на свае вочы бачыў нараджэнне чалавека. Падглядванне з печы, як гэта адбывалася ў бацькоўскай хаце, калі ён быў яшчэ маленькім, можна было не прымаць у разлік. Ды тады яго ці праганялі, ці ён сам не вытрымліваў і ўцякаў, сыходзіў з хаты. А зараз уцякаць не было куды, хаця спачатку і прамільгнула такая думка: усё роўна ніхто не ўбачыць і не дазнаецца. Рукі ў ногі — і прэч. І іменна гэтая думка, тое, што яна прыйшла яму ў галаву, спыніла Гаўрылу. Ён жа лічыў сябе такім правільным і праведным. Амаль бязгрэшным. Кожны дзень рызыкаваў галавой, баронячы, ратуючы айчыну і чалавецтва ад фашызму. А тут ніхто і нішто яму не пагражае, а ён гатовы прымусіць сябе засляпіцца і пакінуць дзіця, што толькі-толькі з'явілася на свет? І гэта з яго чыстай, што не даруе здрады іншым, душой? А яна, гэта яго душа, здольна заставацца глухой і невідушчай, схільнай да самага цяжкага грэху? І ўсё толькі таму, што нараджэнне для недасведчанага і непасвечанага ў гэтую таямніцу чалавека брыдкае і непагляднае воку? Так, ён добра ведаў: толькі праз пакуты прыходзіць на зямлю чалавек. Пакутліва і адыходзіць, асабліва калі смерць заўчасная, ад кулі ці асколка снарада, а то і прамога пападання таго снарада ці міны, што даводзілася неаднойчы бачыць яму ў баі. Але ў баі ўсё зразумела, свядомасць там падрыхтавана. Бой ёсць бой, і смерць непазбежна. Тут жа было нараджэнне, пачатак жыцця, і зноў жа праз кроў, слізь, сукравіцу, разарваную, раздзёртую жаночую плоць. Яго прыпыняла не тое, што жанчына была мёртвая, — яна была знявечаная, і яму наканавана было аддзяліць жывое ад памерлага, і зрабіць гэта зубамі, перакусіць пупавіну, паспытаць адначасова і тое, і другое, адчуць пах і смак жыцця і смерці. Вось чаму супраціўляліся і чаго выракаліся трыццаць з нечым пражытых ім гадоў. У гэтым было нешта нячыстае, грэшнае. І трэба было выбіраць паміж двума грахамі...

Гэта ён хуценька і лёгка расказаў сыну, па сутнасці, калі глядзець збоку, дык чужому чалавеку, расказаў, як імкліва ўсё адбылося. А на самай справе ваганні і разважанні былі доўгімі. Хаця мо і гэта толькі здаецца яму зараз. А тады разважаць і марудзіць не выпадала, і думак па-сапраўднаму не было ніякіх, так, абрыўкі нейкія. У галаве нешта варылася, а рукі ўжо рабілі ўсё, што на тую хвіліну патрэбна было. Не, ён не марудзіў нікольkі, няма на ім такога грэху. Мёртвая жанчына не дазваляла марудзіць. Яна пазірала на яго шырока расплюшчанымі вачыма. І ў іх назаўсёды засталіся просьба і мальба. Незразумела толькі, да каго яны былі звернуты, каму былі скіраваны: небу ці яму, чалавеку, набліжэнне якога яна пачула ўжо будучы мёртвай? І мёртвая, з таго ўжо свету, звярталася па падмогу, як здольны рабіць гэта толькі нябожчыкі, пасылаючы на зямлю не кожнаму відочны знак, пакідаючы пасля сябе мецціну, міма якой не павінен абыякава прайсці ніхто з жывых. Зразумее, не зразумее, але абавязкова спыніцца, азірнецца ці хаця б спатыкнецца...

Вось так і ён спатыкнуўся аб яе вочы. Яны прасілі дапамагчы. І не ёй, не ёй. Ёй ужо ніхто не здольны быў дапамагчы, яна ступіла ўжо за тую рысу, за якой і міласэрнасць непатрэбная. Але была ў яе яшчэ адна справа на гэтым свеце, перад якой бянтэжыцца, адыходзіць убок і сама смерць. І нарачона была гэта справа матчыным абавязкам. Яна маліла зямлю, чалавека і неба выратаваць дараванае ёй свету жыццё. Яна ж і падказала, загадала чалавеку, што трэба рабіць, каб не згасла гэтая жывая іскрынка, што замігцела, успыхнула сярод вайны, вады і ночы. Не патухла сёння, каб, хто ведае, не быць зямлі і заўтра ўкручанай у вар'яцтва яшчэ нейкага, мо і больш жудаснага полымя. І ён падпарадкаваўся малітве маці, яе тайнаму загаду. Пачаў ратаваць дзіця, хаця і з непраходзячым пры гэтым адчуванні сваёй, і яе, жанчыны, грэшнасці. Нібыта грашылі яны разам, і грэх быў для абаіх нечаканы і гвалтоўны, і адбываўся ён тут, на гэтым месцы і зараз. А Гаўрылу хацелася застацца чыстым, і ён, здаецца, гатовы быў кожную хвіліну, — варухніся хоць трохі жанчына, крані вецер яе павекі, — кінуць усё і бегчы, хавацца ў нетрах ночы, нават пад кулі пагоні, засады, што засталася на сухім беразе. І менавіта пад кулі, нібыта яны здольныя былі выратаваць і ачысціць яго ад першароднага грэху.

І быў ён, напэўна, падобны тады на маладога Адама, у якога памерла неспазнаная ім Ева. Неспазнаная наяве, не ў думках. І таму мёртвай ён баяўся яе больш, чым жывой. Адышоўшы ад яго назаўсёды, яна, здаецца, бы ступіла за нейкую нябачную рысу і зрабілася куды больш мудрай за яго і відушчай. Яна нібы цікавала за ім з таго свету, была здольна і чытала яго думкі, угадвала ўсе яго памкненні, бачыла хібы і слабасці і вяла ім падлік, і яе немагчыма было абвесці вакол пальца, загаварыць, падманіць. А спакушэнне падману было вялікае, і крылася яно не толькі ў тым, каб салгаць гэтай мёртвай Еве, нованароджанаму чарвячку, які ўжо ўсчаў тачыць зямны яблык — салгаць самому сабе. Пакінуць іх тут на волю Боскую, ён ведаў — на смерць. Пакінуць на смерць, прыгаварыць іх да смерці, а самому пайсці ваяваць, ратаваць чалавецтва ад карычневай чумы.

Але што яго ўтрымлівала — цела жанчыны яшчэ не астыла, не спруцянела, да золаку заставалася цёплым. Яно захавала цяпло і на другі, трэці дзень яго быцця на востраве. І тут паўстала

пра нашае знаёмства ва ўжо далёкай маладосці, — пра гэта распавядаць няма асаблівай патрэбы. Распавяду пра асобныя, вызначальныя этапы ягонага жыцця, а прасцей — пра тыя прыступкі, па якіх ён уздымаўся год ад году, не здраджваючы сваёй — у юнацтве яшчэ акрэсленай! — мары і мэце.

1. Спачатку паступіў у інстытут фізкультуры. Лекцыі па хіміі чытаў вядомы вучоны Бандарын. Ён запрыкмеціў дапытлівага і здольнага юнака (лекцыі Бандарына былі з медыцынскім ухілам) і параіў перайсці ў медінстытут. Пётр ужо адчуў сваё сапраўднае прызванне і зрабіў гэтак, як раіў яму настаўнік. Гады напружанай вучобы, і ў 1951 годзе ў Кузюковіча ў руках чырвоны, такі жаданы дыплом.

2. Маладога ўрача размеркавалі ў Гродзенскую вобласць. Год працуе ў Свіслачы. Адтуль пасылаюць на курсы спецыялізацыі па хірургіі, пасля накіроўваюць у Ваўкавыскую раённую бальніцу, затым загадчыкам аддзялення хірургіі ў Слонімскую, дзе толькі за 1 год працы зрабіў 600 аперацый: у трох сумежных раёнах не было хірургаў.

3. Зноў курсы — ужо ўдасканалення — па хірургіі, і ў выніку П. Кузюковіч — першы ў Беларусі пачаў аперыраваць лёгкія хворым на туберкулёз, упершыню прымяняе так званы "сучасны наркоз" (інтубацыйны, бясшкодны);

4. 1961 год — абарона кандыдацкай дысертацыі;

1962 — ст. навуковы супрацоўнік інстытута ўдасканалення ўрачоў;

1969 — абарона доктарскай дысертацыі;

1970 — прафесар, намеснік дырэктара па навуцы;

1974 — прафесар кафедры фтызіяпульманалогіі.

Яго лекцыі праслухалі больш чым тры тысячы ўрачоў з усіх куткоў былога Савецкага Саюза. Атэстацыйнай камісіяй Міністэрства аховы здароўя П. Кузюковічу прысвоена вышэйшая катэгорыя хірурга-пульманолага.

5. З 1993 — кансультант. А на зыходзе 1999-га абраны Ганаровым акадэмікам медыцынскай акадэміі Рэспублікі Беларусь.

За гэтыя гады П. Кузюковіч апублікаваў 150 навуковых прац, у тым ліку 2 асабістыя манаграфіі і 3 калектыўныя.

І аперацыі, аперацыі, аперацыі — больш за дзесяць тысяч хворых на туберкулёз прааперыравана яго рукамі. Любіў цяжкіх хворых: ім у першую чаргу неабходна была яго дапамога. Неаднойчы выпраўляў памылкі іншых хірургаў. Хворыя багатварылі яго: яны верылі яму, высока ставілі яго талент і любоў да людзей. Некаторыя з іх жывуць і радуюцца жыццю і праз сорак гадоў з часу рэзекцыі лёгкага.

Яго распрацоўкамі аперацый на лёгкіх карыстаюцца многія хірургі-пульманолагі. Пад яго кіраўніцтвам абаронена 10 кандыдацкіх і І доктарская дысертацыя. П. Кузюковіч выступаў з дакладамі на з'ездах хірургаў СССР і БССР. 10 гадоў рэцэнзаваў дысертацыі пры ВАКу. Зараз рыхтуе новую цікавую манаграфію.

Вялікім, мэтаімкнёным, напружаным, творчым і плённым з'яўляецца місіянерства Пятра Маркавіча Кузюковіча, слаўнага сына нашай роднай Беларусі, з жыццёвай сцяжынай якога на нейкі міг была перакрыжавалася і мая сцежка. На міг, а вось жа — тое засталося ў памяці, збудзілася праз шмат гадоў. І захацелася расказаць пра яго — праз шаноўны "ЛіМ" — іншым людзям.

**Ларыса КАРОТКАЯ,**
**былы дацэнт кафедры рускай літаратуры філфака БДУ**

г. Мінск

ЮБІЛЕІ

# Ёсць у Глушкавічах хор...

У 1973 годзе "ЛіМ" у артыкуле "Новыя народныя" паведамляў: "Многія, відаць, памятаюць канцэрт палескай песні, які адбыўся ў 1970 годзе ў Мінску. Сярод калектываў, што прывезлі ў сталіцу цудоўныя ўзоры народнай песеннай творчасці, быў і хор Глушкавіцкага сельскага клуба Лельчыцкага раёна. Гэты калектыў, які ўзнік яшчэ ў 1935 годзе, вызначаецца высокай культурай спеваў, зладжанасцю выканаўцаў".

Так, роўна 65 гадоў таму афіцыйна быў заснаваны Глушкавіцкі хор. Хаця ў гэтым краі, у глушы Палесся, людзі здаўна славіліся сваёй песеннай творчасцю, нагода для стварэння калектыву самадзейных артыстаў была такая.

У 1932 годзе ў Глушкавічах пабывала фальклорная група Палескай экспедыцыі АН СССР і БССР на чале з М. Грынблатам і З. Эвальдам, якія запісвалі мясцовыя песні, прыпеўкі, паданні, казкі. Праз два гады зноў у Глушкавічах пабывала Палеская музычна-фальклорная экспедыцыя інстытута антрапалогіі і этнаграфіі АН СССР. Вось гэтыя візіты і падштурхнулі справу арганізацыі самадзейных артыстаў у хор.

У 1937 годзе Глушкавіцкі хор, які спачатку называўся хоргуртком, налічваў 20 чалавек. Акрамя яго, пры Глушкавіцкім Доме сацкультуры дзейнічалі музычны, танцавальны, драматычны і фізкультурны гурткі. Восенню там адбылася імпрэза мастацкай самадзейнасці Глушкавіцкага сельсавета. Вылучаліся выступленні пажылых калгаснікаў, спевы і танцы хлопцаў, ад якіх не адставалі і дзяўчаты. На сцэну выходзілі больш як 20 музыкаў са скрыпкамі, гучалі мандаліны, балалайкі, гармонікі... Былі ў іх і выступленні па суседніх вёсках, перад пагранічнікамі, на раённых і абласных аглядах...

Пасля вайны самадзейная творчасць аднавілася, але не ў такіх маштабах.

І вось з 1963 па 1979 год Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР наладзіў на Палессі экспедыцыйную працу. У Глушкавічах, вядомых багатымі песеннымі традыцыямі, даследаванні вяліся стацыянарна.

У 1968 годзе ў Мінск на музычна-этнаграфічныя канцэрты былі запрошаны народныя спевакі з Глушкавічаў. Выступалі ў зале кансерваторыі, на радыё і тэлебачанні, у зале Саюза пісьменнікаў, у Доме мастацтваў. У 1970 годзе Глушкавіцкі хор удзельнічаў у сталічным свяце палескай песні, запрасілі самабытных спевакоў і на Усесаюзнае тэлебачанне...

У тым годзе Глушкавіцкі хор узначаліў Сяргей Драчэўскі. (Франтавік-разведчык, ён пасля вайны вучыўся па класе вакалу ў Львоўскай кансерваторыі, быў салістам Чырванасцяжнага імя Аляксандрава ансамбля песні і танца Савецкай Арміі, спяваў у Акадэмічнай харавой капэле БССР.) А яшчэ ён задумаў капэлу сумесную: беларуска-ўкраінскую! З жыхароў вёсак Глушкавічы, Капішча і Майдан Капішчанскі (апошнія дзве — украінскія). З Жытомірскай вобласці "ў дапамогу" было накіравана трыо баяністаў. І нарадзілася новая капэла — "Славяне".

На першую ж сумесную яе рэпетыцыю сабралася больш за сотню самадзейных артыстаў. Кіраўнікі калгасаў і сельсаветаў не паскупіліся на самыя адмысловыя ўборы: у Львове заказалі сваім артыстам сцэнічныя касцюмы, у Мінску — боцікі. Гэта было ў 1970 годзе. А ў 72-м капэла налічвала каля 140 удзельнікаў. Выступалі ў Мінску, Кіеве, Гомелі, Жытоміры, Алеўску, Ельску, Маскве...

Зводны хор неаднаразова адзначаўся на фестывалях і аглядах, меў афіцыйнае прызнанне, атрымаў званне "народны". І зараз помняць палешукі канцэрты фальклорна-этнаграфічнай групы "Глушкаўчанка", жаночай групы "Верасок", вакальнай групы "Вяскоўцы", што ўваходзілі ў адзіны вялікі калектыў.

Сёлета неаднаразовы лаўрэат абласных і рэспубліканскіх аглядаў мастацкай самадзейнасці Глушкавіцкі народны хор святкуе 65-годдзе. Пажадайма самадзейным артыстам поспехаў і падтрымкі.

**Уладзімір ЗУБРЭЙ,**
**настаўнік гісторыі**

ўжо і абурылася яго вясковая сялянская душа. Ён не здольны быў пайсці і кінуць на волю лёсу яшчэ неастылае чалавечае цела. А да ўсяго, у грудзях яе ўсе тры дні не прападала малако. Хлопчык тры дні ўграваўся на целе маці, больш сухога месца, як толькі выцягнуцца на ўвесь рост маці, на той пядзі зямлі не было. І сам Гаўрыла ўвесь час знаходзіўся то вышэй каленяў, а то і да грудзей у вадзе. Добра яшчэ, што хлопчык за тры дні не азваўся, не заплакаў уголас, не выкрыў сябе і яго, Гаўрылу. Праз роўныя прамежкі часу ён прыкладваў хлопчыка то да адной, то да другой цыцкі нябожчыцы, і той насычаўся жывым ці мёртвым малаком маці. Гаўрыла кожны раз сам мярцвеў і нямеў, бачачы такое, і толькі гадаў, думаў, кім стане, хто вырасце з гэтага дзіцяці, успоенага, выгадаванага на малацэ мёртвай маці. Анёл, д'ябал — каго Бог паслаў на зямлю, а яму загадаў сустрэць гэтага пасланца?

І яго зноў жа цягнула, панаджвала кінуць усё і самому кінуцца пад кулі бобікаў. Паліцэйская засада заставалася на беразе, ён мог меркаваць аб гэтым па цяпельцу, што няспынна гарэла ўдзень і ўначы, па стрэлах і крыках, што іншым разам гучалі адтуль:

— Выходзь, выходзь! Усё роўна мы цябе пераседзім. У нас сала і самагонка ёсць. Можам і табе чарку наліць...

Іх сала і самагонка яго не вабілі, як не перапыніла б яго дарогі, пажадай Гаўрыла сам таго, засада. І на пачатку першага дня ён, здаецца, пажадаў. Прыгледзеў пры сонцы, як і дзе больш зручна выбрысці на сухое, абысці засаду і даць дзёру. Мо тае ж начы ён так бы і зрабіў, пакінуў бы парадзіху і нованароджанага. Разам з хлопчыкам яму ўсё роўна было не выратавацца. Але толькі ён усё гэта абдумаў, як па-над голым лазовым кустом з'явілася немаведама адкуль птушка. Ён прасачыў за яе пырханнем. То была, здаецца, сінічка, а мо і нейкая іншая, зусім не вядомая яму птушка. Кружылася на адным месцы, апусціўшы долу, падцяўшы хвосцік, трапятала крылцамі і жаласна-жаласна ціліўкала. Ён падумаў яшчэ, што нізавошта не паддасца гэтаму ўмольнаму ціліўканню — вайна ж, усюды навокал вайна. Але птушка раптам каменем пачала падаць на купіну. Дакранулася лапкамі да яго непакрытай галавы, мазнула крылцамі па твары, прыпала да яго грудзей, загаласіла, заплакала.

І ён зразумеў, што гэта зусім не птушка. То душа, што адляцела ўжо на той свет, — душа гэтай памерлай жанчыны. Вярнулася яе душа са шчаслівага раю, мо самім Богам бласлаўлёная на гэта вяртанне, і перасцярагае яго, пракладвае, пратоптвае туды дарогу і яму. Калі ён, зразумела, застанецца чалавекам, застанецца да апошняга тут, не кіне дзіцяці. А мо гэта быў анёл-ратоўнік дзіцяці: хоць яшчэ і не хрышчоны, але ўжо ўпадабаны Богам. Таму Бог і прыслаў яго сюды, каб ратаваць іх абодвух. Немаўля і яго грэшную душу пазбавіць яе вечнага пекла, пекла ва ўласнай душы, калі ён спакусіць яе сёння, уратуючы цела. І Гаўрыла застаўся, скарыўся лёсу, гатовы пакорліва прыняць, сустрэць смерць і жыццё, што наканавана яму і гэтаму, кімсьці пасланым на яго шляху, дзіцяці.

Перабыў, як Ной на сваім каўчэгу, астатак гэтага дня і ноч, што надышла за ім. І яшчэ дзень і ноч. Прыспела ноч трэцяя. І была яна самай маркотнай і доўгай. Яшчэ ўдзень ён пачаў упадаць у забыццё, адчуваючы сябе папераменна то рыбінай, то бабром, а то і вужакай, што гола слізгае па воднай роўнядзі. Гаўрыла быў амаль што голы. Споднюю сарочку парваў адразу ж, пусціў яе на пялёнкі хлопчыку, а пінжаком прыкрываў яго замест коўдры. Кажушок ён скінуў яшчэ ўцякаючы ад пагоні, калі толькі наблізіўся да вады. І зараз вельмі шкадаваў аб гэтым. Ночы стаялі ядраныя, вада не паспела яшчэ прагрэцца, і ад холаду ўсё цела аж заходзілася і нямела. Але ўжо на другую ноч каля ўзгалоўя жанчыны паўстала і зацеплілася не то свечачка, не то нешта накшталт каганца, які яны звычайна запальвалі з вечара ў партызанскай зямлянцы, уставіўшы кнот у звычайную гільзу ад бронепатрона, запраўленую чым-небудзь гаручым. Гаўрыла пажадаў дасведчыцца, што ж гэта такое — сапраўды каганец ці свечка па нябожчыку, калі можна, сагрэць акалелыя рукі. Полымя свечкі ці каганца было сугрэўным, але ў рукі не давалася. Варта было толькі наблізіць іх да агеньчыка і памкнуцца ўхапіць яго, як полымя, нібы жывое, унікала, адхілялася, агонь праходзіў скрозь пальцы. Ён лавіў яго спрацянелымі, ужо нягнуткімі далонямі ўсю ноч. Імкнуўся зачэрпнуць полымя, як прыгаршчамі чэрпаюць ваду, — усё было дарэмна. Браў агонь у кулак, імкнуўся злавіць, заспець яго каля ўзгалоўя жанчыны — агеньчык перабягаў і ўспыхваў у іншым месцы, на грудзях ці ў нагах. Гаўрыла сунуўся туды — агеньчык адыходзіў, але не знікаў, не пакідаў іх котлішча ўсю ноч. І на світанку яму зрабілася зноў цёпла. Загусцелая ўжо было кроў, што лена бруілася па яго целе, зноў вольна заструменіла ў ім. Гаўрыла ажыўленай рукой дакрануўся да белага лобу жанчыны. Лоб быў халодны, і ўсё цела жанчыны было халоднае, каменнае. Ён яшчэ раз пераканаўся, што яна адышла назаўсёды, сканала, а сын яе застаўся жывым. І ён, Гаўрыла, пазбыў свае халодныя і галодныя ночы сярод вады, таксама выжыў, ацалеў. І цяпер яны з хлопчыкам проста вымушаны жыць. І хаця на беразе пасля трэцяй начы яшчэ куродымна і чадна працягвала тлець вогнішча засады, ён ужо быў упэўнены: нікога каля яго няма. Туды ж, да вогнішча, паляцела і невядомая птушка, што ўвесь час знаходзілася каля іх. Паляцела не вельмі высока над вадой і ўвесь час азіралася, пакручвала галоўкай і пакрыквала, ціліўкала, быццам запрашала пайсці следам за ёй.

— Пайшлі, Макрыян, калі просяць, — сказаў Гаўрыла. Падхапіў хлопчыка, прытуліў да грудзей і ўсё гэта адной левай рукой, а правай — загробваў па вадзе, нібыта чысцячы, пракладаючы сабе дарогу...

# Вандроўнік з крыжовай дарогі

**Стваральнік "Паэтычнай стылістыкі" (выйшла ў Нямеччыне ў 1947 годзе) на працягу больш дваццаці гадоў павінен быў працаваць фізічна, амаль нічога не пісаў. Але як толькі з'явіўся шанц, аддаў усяго сябе вялікай справе да канца. Ён як бы спяшаўся навярстаць тое, што прапусціў, пакуль зарабляў на жыццё. І А. Калубовіч зрабіў амаль немагчымае...**

Аўген Калубовіч нарадзіўся 5 сакавіка 1912 года на Рагаўшчыне ў сям'і служачага. Скончыў пачатковую школу ў мястэчку Ціхінічы, Рэчыцкую сямігодку, педагагічны тэхнікум (былая Бабчынская дзевяцігодка з педагагічным ухілам).

20 мая 1930 года А. Калубовіча арыштавалі. Так і не паспеў ён атрымаць дыплом настаўніка. Потым успамінаў: "Трапіў пад навядзенне бальшавіцкага парадку". Аўгена, як і шмат каго з яго сяброў, абвінавацілі ў актыўным удзеле "в антисоветской националистической организации Альтруистов, которая ставила своей целью подготовку контрреволюционного восстания для свержения советской власти и отторжения Советской Белоруссии от СССР". Гэта значыць, што ў адрозненне ад іншых "нацдэмаў" трапіў Аўген за краты невыпадкова.

4 кастрычніка "двойка" прачытала прысуд: "Тры гады пазбаўлення волі". Тут Аўгену Калубовічу пашанцавала. Але не пашанцавала ў іншым: большасць асуджаных пакаранне адбывала ў высылцы, кіраўніка ж "альтруистов" загналі ў канцлагер (Усольскі "лагпункт", што ля Пермі).

17 красавіка 1933 года А. Калубовіча "за примерную работу" на месяц раней тэрміну вызвалілі з канцлагера (пра што, як сведчыў Я. Кіпель, Аўген успамінаць не любіў), і ён вярнуўся на Бацькаўшчыну. Пры дапамозе старшыні ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова (былога паплечніка бацькавага сябра-камуніста) атрымаў другі шанс "выбіцца ў людзі". Паступіў у Мінскі Вышэйшы Белпедінстытут (скончыў у 1939 годзе). Працаваў настаўнікам, потым інспектарам у Наркамасветы.

З успамінаў Іны Калубовіч (першая жонка А. Калубовіча): "В начале ноября (1940 г. — **Л. М.**) я с Аугенам была на торжественном вечере в доме литератора. Там были Янка Купала, Михась Лыньков, Алесь Кучар, близкие друзья Аугена Антон Белевич и Рыгор Казак (пазней стаў вядомым паэтам Рыгорам Крушынай. — **Л. М.**). Когда мы пришли, нас сразу позвала к себе Владислава Францевна, жена Янки Купалы. Она была в компании женщин и, когда мы подошли, попросила Аугена, чтобы он познакомил их со своей сестрой. И когда Ауген представил меня как свою жену, все стали нас поздравлять. Многие говорили, что мы очень похожи. Владислава Францевна шутила и все спрашивала у Аугена, когда он включит ее произведения в школьную программу. Потом Ауген ушел к мужчинам. [...] После торжественной части выступали артисты, играла музыка, были танцы. Ауген разговаривал с Янкой Купалой и другими писателями, а я танцевала, мне было очень весело, и я была счастлива..."

У час другой сусветнай вайны А. Калубовіч, выбіраючыся з акружэння апынуўся на акупіраванай тэрыторыі. У 1943 годзе стаў сябрам БРД, БЦР, старшынёй БКЗ. Праз год пераехаў у Нямеччыну. Быў настаўнікам (пад прозвішчам Кахановскі) беларускай мовы і літаратуры ў гімназіі імя Янкі Купалы. У 1950 годзе пераехаў у ЗША. Да выхаду на пенсію працаваў на адным з амерыканскіх заводаў, 22 гады прастаяў каля канвеера.

З успамінаў Іны Кахановскай (другая жонка пісьменніка): "Муж [...] пайшоў на пэнсію ў ліпені 1972 г. Нялёгкія гады фізычнай працы на фабрыцы скончыліся. На разьвітанне сябры-рабочыя справілі яму "farewell parti": сфатаграфаваліся зь ім, падаравалі прыгожы гадзіннік, зрабілі для ўсіх пачастунак, і, галоўнае, кожны пажадаў яму шмат шчасьця і здароўя. Увага сяброў па працы глыбока кранула Аўгена. Дамоў ён прыехаў шчасьліва ўзрушаны...

Цяпер ён зможа прысьвяціць увесь свой час любімай літаратурнай і навуковай працы..."

З гэтага часу праз дваццацісямігадовы перапынак зноў пачынаюць выходзіць кнігі А. Калубовіча: "Мова ў гісторыі беларускага пісьменства" (Мюнхен; Лондан. 1974—1975. Т. 1; Кліўленд. 1978. Т. 2), "Айцы" Беларусі і іхны лёс" (Кліўленд. 1982). Пісьменнік складае і выдае (пры дапамозе Міколы Прускага) зборнік "Янка Купала і Якуб Колас. 1882—1982. Вянок успамінаў пра іх" (1982. ЗША), у якім пра класікаў успамінаюць М. Шыла, І. Рытар, М. Сяднёў, М. Шчаглоў і іншыя.

У 1986 годзе з'явілася знакамітая кніга А. Калубовіча "На крыжовай дарозе", якая стала апошняй прыжыццёвай працай пісьменніка. У кнізе ёсць шмат невядомых звестак пра пакутнікаў сталінскага рэжыму. Так, пра У. Хадыку адзначаецца, што "свае лагерныя вершы запісваў дробнымі літарамі на цыгарэтнай паперы і зашываў у каўнер бушлата, а Т. Лебяда завучваў свае на памяць. Першага ў 1940 годзе пры падрыве дынамітам скалы на станцыі Ерафей Паўлавіч каменная глыба ў вапняным кар'еры раздушыла насмерць. Разам з ім загінулі і яго лагерныя вершы". Асабістую каштоўнасць мае імянны паказальнік кнігі. Тут трэба адзначыць, што А. Калубовіч, наогул, адным з першых пачаў дадаваць да кніг-успамінаў імянныя паказальнікі.

У кнігу "Крокі гісторыі" (выйшла пасля смерці аўтара) увайшлі лепшыя творы А. Калубовіча. Згадвае ў ёй пісьменнік і пра апошнія хвіліны жыцця акадэміка У. Ігнатоўскага: "У тое ранне (4 лютага 1931 года. — **Л. М.**) ён чуўся страшэнна знэрваваным і змучаным допытамі ГПУ... Прафэсар пяшчотна пацалаваў жонку і пайшоў да сябе ў кабінет. Хутка раздаўся стрэл...". У пятым томе БелСЭ (1972) чытаем (с. 44): "У сваіх працах У. Ігнатоўскі не даваў належнай марксісцкай характарыстыкі эпохі, разглядаў гістарычныя падзеі з нацыяналістычных пазіцый". Таму, відаць, і давялі бальшавікі акадэміка да самагубства.

Памёр Аўген Калубовіч 25 мая 1987 года ў Кліўлендзе.

**Леанід МАРАКОЎ**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

*1 трайня, панядзелак, 15.35* — "Купалаўцы: погляд праз час", тэленарыс да 80-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

*4 трайня, чацвер, 13.15* — тэлевізійны спектакль "Прарок для Айчыны" паводле А. Петрашкевіча (1-я дзея).

*5 трайня, пятніца, 13.15* — "Прарок для Айчыны", (2-я дзея).

*5 трайня, пятніца, 18.00* — да 50-годдзя Вялікай Перамогі. Перадача "З лейкай і блакнотам" пра фотакарэспандэнта Аляксандра Дзітлава.

*6 трайня, субота, 12.20* — "Сустрэчы ў Расіі", перадача пра фестываль рускіх тэатраў краін СНД і Балтыі ў Санкт-Пецярбургу.

*7 трайня, нядзеля, 18.55* — "На хвалях эфіру", святочная праграма да Дня работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі. У перадачы возьмуць удзел колішнія дыктары Белтэлерадыёкампаніі.

### КАНЦЭРТЫ

*22 і 23 красавіка* — канцэрты "Народнага альбома" ў магілёўскім ДК "Хімвалакно" і гомельскім Грамадска-культурным цэнтры.

## Беларуская акадэмія мастацтваў

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:**

— загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва 1
— дацэнт кафедры малюнка 1
— дацэнт кафедры мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва 1
— выкладчык кафедры гуманітарных дысцыплін 2

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

Заявы і дакументы, згодна ўмове аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас:

*220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў; тэл. 232-77-34.*

## Запрашаем

25 красавіка ў бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) у 18.30 адбудзецца прэзентацыя кнігі Уладзіміра Арлова "Таямніцы полацкай гісторыі" (другое выданне). Запрашаюцца ўсе зацікаўленыя.

# Самы беларускі кінатэатр

Звычайна азначэнне "нацыянальны, беларускі" мы ўжываем, гаворачы пра тэатры, — імя Купалы, імя Коласа... Пра айчынныя кінатэатры язык не павернецца. Рэпертуар іхні спрэс замежны і на беларускую мову не дубляваны. А рабіць гэта можна ж. Як робіць відэаклуб ТБМ, напрыклад.

Але ёсць, ёсць кінатэатр, адзіны ў сталіцы, беларускі па кінаформе і кіназмесце — "Змена". У нацыянальных культурніцкіх колах будынак па Даўгабродскай, 4 дастаткова вядомы не толькі як месца дэманстрацыі фільмаў айчыннай вытворчасці, але і тым, што тут пастаянна праводзяцца разнастайныя вечарыны. Адбываецца гэта ўжо 6 год, як на пасаду дырэктаркі прыйшла сюды колішняя настаўніца беларускай мовы Ніна Міхайлаўна Макрыцкая. Тады наш "Кінавідэапракат" вырашыў паставіць на "Змене" эксперымент, так бы мовіць, па беларусізацыі кінатэатраў. Аднак рэферэндумам 1995 года і наогул змяненнем унутранай дзяржаўнай палітыкі распаўсюджанне гэтага працэсу было згорнутае. А "Змена", як кінатэатральная рэзервацыя беларускасці, трымаецца дагэтуль, збольшага на энтузіязме дырэктаркі. Зарплата Ніны Макрыцкай маленькая — "Змена" лічыцца кінатэатрам другой катэгорыі. І месціцца таму ў занядбаным будынку, стан якога даўно вымагае капітальнага рамонту. Няма грошай новыя дзверы паставіць, нават шыльду беларускамоўнай зрабіць — а трэба ж толькі літару "с" на "з" замяніць. Ды й зарабіць не даюць: так званыя камерцыйныя фільмы ідуць тут "апошнім экранам", а кошты на квіткі "Кінавідэапракат" вызначае проста мізэрныя. Напрыклад, толькі зараз у "Змене" дэманструецца "Сібірскі цырульнік", які ўжо болей 700 раз "пракруцілі" у іншых кінатэатрах. Да таго зала "зменаўская" зусім малая: усяго 97 месцаў.

А на беларускіх стужках тым больш прыбытку не займееш. Бо, як кажа Ніна Макрыцкая:

— На іх трэба гледача спецыяльна арганізоўваць. Мы знаходзім сваіх гледачоў у тэхнікумах, вучылішчах, школах, дзіцячых садках, праз Інстытут удасканалення работнікаў культуры, Інстытут удасканалення настаўнікаў і іншыя ўстановы. Асноўная наша задача — проста вярнуць гледача ў залу, вярнуць прыхільнасць да беларускасці. Каб не гаварылі, што няма беларускіх фільмаў.

**— Але айчынных мастацкіх фільмаў, на якіх лягчэй завабіць народ, у нас апошнім часам насамрэч не з'яўляецца. Кінематограф у крызісе.**

— Я маю на ўвазе дакументальнае кіно — славу "Беларусьфільма". Ёсць шмат якасных і цікавых стужак па нашай гісторыі, па культуры, пра нашых выбітных гістарычных асоб. А як удала, з аншлагам, у нас прайшла ў сакавіку рэтраспектыва фільмаў паводле твораў Васіля Быкава! Нешта нават зарабілі.

Разам з тым "Змена" фактычна працуе ў сістэме адукацыі. У кінатэатры пастаянна ладзяцца спецыяльныя сеансы ў выглядзе візуальна-ілюстрацыйнага дадатку да школьных праграм ад літаратуры да прыродазнаўства. Да таго перад кожным камерцыйным фільмам паказваецца невялічкі навукова-папулярны беларускай тэматыкі.

І было б цалкам справядліва, каб менавіта ў "Змене" праходзілі прэм'еры нашых новых, і не толькі дакументальных стужак. Хоць бы прэм'ера таго ж "Моманту ісціны", запланаваная да Дня Перамогі...

**Кірыла ПАЗНЯК**

Слабадан НАВАКАВІЧ

# Ціта

## ПАРТРЭТЫ СУЧАСНІКАЎ

*"Я гэты суд не прызнаю"*

**Ёсіп Броз**

Каб таварыш Ціта стаў сатырыкам, замест таго, што стаў прэзідэнтам Рэспублікі, ён не лепшым чынам па жыцці б прайшоў: адказныя таварышы, пэўна ж, мелі б дастаткова заўваг на ягоныя публічныя крытычныя выступленні перад народам...

Перад народам у Ціта няма таямніц: ён народу заўжды кажа тое, што думае, і няхай народ думае.

Нездарма Ціта вучыўся на майстра па замках — ён умее падабраць ключ да любога сэрца!

Некаторыя Цітавы выслоўі сталі народнымі прыказкамі. Але Ціта, калі нешта кажа, меней думае наконт прыказак, а больш наконт задач, якія перад намі стаяць (ёсць людзі, якія ягоную фразу "Пяройдзем ад слоў да спраў!" гэтулькі паўтараюць іншыя, што самі не пасляваюць перайсці ад слоў да спраў).

Аўтабіяграфія таварыша Ціта — гэта гісторыя нашай Партыі.

Толькі адзін кваліфікаваны майстар па метале быў здольны да вайны прывесці ў парадак механізм нашай Партыі і па сённяшні дзень падтрымліваць яго ў спраўнасці.

Партыя працуе як гадзіннік — як толькі пачне адставаць, таварыш Ціта накручвае.

Ціта нам падараваў афарызм: "На ўсіх паваротах вылятаюць няпэўныя!"

Паколькі гісторыя не можа без руху і без паваротаў, пільнуйцеся, таварышы! Давайце трымацца ўсе мацней на выгінах (якія ёсць вынік нераўнамернасці нашага беспарарыўнага развіцця), асабліва ж давайце пільнавацца, каб самім не рабіць выгінаў.

Нашыя дарогі адвеку былі ў досыць кепскім стане. Толькі збудуем дарогу "Брацтва і адзінства", а на ёй з'яўляюцца правалы, і патрэбна рамантаваць! Таму таварыш Ціта прыкладае велізарныя намаганні, каб дарога "Брацтва і адзінства" заставалася і надалей дарогаю першай катэгорыі, а наш шлях у сацыялізм ператварыўся ў аўтастраду, на якой наш рабочы чалавек мог бы развіць поўную вытворчую хуткасць, кіруючы сам сваім лёсам.

Ціта кажа: "Чалавек — наша самае вялікае багацце!". Значыць, чым чалавек большы паводле чалавечнасці — краіна багацейшая.

Ціта — наш сучаснік, і мы ўсё ведаем пра яго. Мы — ягоныя сучаснікі, і ён хоча ўсё ведаць пра нас.

Таварыш Ціта любіць людзей: таму ён заўжды з народам — ён слухае, што народ гаворыць, а таму нармальна, што і народ слухае, што Ціта гаворыць.

Таварыш Ціта любіць мір: ён за мір шмат ваяваў і вандраваў у сваім жыцці.

Таварыш Ціта любіць хадзіць на паляванне: ён палюе не толькі на сарнаў і на зайцоў, але і на памылкі ў нашай практыцы. (Ён, вядома, ніколі не страляе ўпустую!).

Ціта любіць быць з моладдзю. Невядома, чаго сябры яго называюць "таварыш Стары"?

Да семдзесят пятага дня нараджэння народ таварышу Ціта зрабіў добры падарунак: зноў тытул прэзідэнта Рэспублікі... Ад усіх нас залежыць, наколькі юбілейны пірог, які мы яму замясілі, будзе салодкі.

**Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА**

## ВЕРНІСАЖ



*Мал. А. БУЛАЯ*





*Мал. А. ГУРСКАГА*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

— Бачым як усе, — радаваліся слепавокія ў цемнаце. — А што толькі не бачыш у сне без пенснэ.

●

Ва ўсіх пераліках я апошні — бо стары. Затое калі ўзгадваюць старых, я першы. Як найстарэйшы. З апошніх — у першыя — хто з маладых можа пахваліцца гэткім пераўвасабленнем!

●

Некаторыя жабы — зачараваныя царэўны? Напэўна, напэўна. Але ў сусветным маштабе ўсе царэўны — жабы.

●

На самавітых чачэнцах папахі са смушка — звычай абазначаюць свой высокі стан. У расійскіх генералаў на падобны манер са смушка папаха і каўнер. Адкуль гэта ў каўказцаў і расіян — абавязкова каб цябе вызначаў баран?

●

Спыніўся, уражаны, люстэркі мяне не паказваюць. Зазірнуў у пасведчанне: ага, я — засакрэчаны.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 20.04.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2019

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12